# МАЛАДЫ АРАТЫ

ЧАСОПІС СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ
ОРГАН ЦКЛКСМБ



№ 9-10 1925 г.



Тав. ЗІНОЎЕЎ
Старшыня Выканаўчага Комітэту Комінтэрна.

# Да расстрэлу т. Ботвіна.

Тэлеграф прынёс нам кароткія весткі:

„8-га ліпня комуністым Ботвіным, юнаком 20-ці год, забіты сярод белага дня на вуліцы Львова вядомы польскі правокатар, відны дзеяч палітычнай паліцыі—Юзэф Цэхноўскі".

І яшчэ:

„У сераду ў Львове ў ваеннапалявым судзе пачалося слуханьне справы Ботвіна, які забіў провокатара Цэхноўскага".

І яшчэ:

„Раніцаю ў чэцьвер, суд вынес прыгавор. Ботвін прысуджаны да кары сьмерці на шыбеніцы, якая замяняецца расстрэлам. Роўна праз тры гадзіны пасьля прыгавору Ботвіна расстралялі ў турэмным двары. Ботвін сустрэў сьмерць спакойна, адважна".

У прапітаных крывёю пакутнікаў засьценка белай Польшчы вырасла новая магіла. Ня першая і не апошняя.

Рабочыя Польшчы, сяляне Заходняй Украіны і Беларусі, прыціснутыя ботам польскага жандара, маюць адзінага абаронцу ў асобе Комуністычнай партыі і Комуністычнага Саюзу Моладзі. Страх перад гэтай рэволюцыйнай сілай, перад найбольш упартым атрадам рабочае клясы прымушае польскіх паноў дашуквацца найбольш бязьлітасных спосабаў барацьбы з комунізмам.

Добрыя ўжыткі царскай ахранкі знашлі ў панскай Польшчы найбольш спрыяючую глебу.

Азеф (вядомы расійскі провокатар) стаў прыкладам для польскага ахраньніка і славутная „дэфэнзыва" — цэнтрам провокацыі. Провокацыя вырасла ў сыстэму. У любай унутрана палітычнай завадзе кіруючыя клясы Польшчы прыбягаюць да выпытаных сродкаў провокацыі, імкнучыся бомбамі, узрывамі і іншымі сэнсацыямі адцягнуць увагу абнішчалых працоўных мас. Провокацыя сталася сыстэмай, якая ўжываецца з-за вышэйшых дзяржаўных меркаваньняў і проста з-за каханьня да справы.

У момант, калі мытніцкая вайна з Нямеччынай, зруйнаваўшая дзесяткі тысяч сялян-немцаў, выселеных Польшчай, і сялян-палякаў, выселеных Нямеччынай, якая выклікала хуткі ўзрост дарагоўлі, спэкуляцыю і катастрафічнае патаненьне злотага (польская грашовая адзінка), якое напамінае патаненьне маркі ў часы разгару нямецкай інфляцыі (выпуск вялікага ліку папяровых грошай),—у гэты момант як нельга больш выгодна расстрэлам „жыда-комуніста" адцягнуць увагу польскіх працоўных гушч ад палітычных і гаспадарчых няўдач на „сапраўдных" вінавайцаў усіх бед і няшчасьцяў.



Дзеля таго, каб мець нагатове якое-небудзь пакушэньне, узмацнёна працаваў па даручэньню дэфэнзывы яе „дзеяч"— Цэхноўскі. Ён прыносіць бомбу на Венскі вакзал у Варшаве і „арыштаваны на месьце праступку" „ад чыстага сэрца сазнаецца", што атрымаў бомбу ад Багінскага і вязе яе Вечаркевічу.

Справа ўдачлівая і скончаецца яна яшчэ больш удачліва „патрыотам" Мурашкам, які прыстаўлены быў „дэеля аховы" Вечаркевіча і Багінскага, пры іх адпраўцы для абмену ў СССР, і ў момант прыпадку патрытоычных пачуцьцяў які застрэліў абоіх.

Праз гэтыя дзьве магілы сьмела ідзе ўперад па таму-ж шляху гэрой дэфэнзывы. Узрыў ва унівэрсытэце, у часе якога гібне профэсар Ожэнцкі. Вынік— некалькім комуністым па 15 год катаргі, у тым ліку Ротэру і Масьлінскаму.

Шмат іншых учынкаў, і, урэшце ўзрыў у рэдакцыі сялянскай газэты „Валька Люду". І не апошняя была-б справа Цэхноўскага, калі-б юнак-комуністы цэлкім стрэлам 8-га ліпня ня скончыў гэтай кар'еры провокатара і сакратара саюзу мэталістых, які вырас да высаты польскага Азефа.

Ботвін ведаў, што яго чакае лёс Энгеля. Ён ведаў, што помста за сьмерць Цэхноўскага будзе зыходзіць ад польскага пана, што польскі пан ня зьлітуецца над ім за гэта.

На старонках славутнай гісторыі гэройскай барацьбы польскіх пролетараў, Комсамолу і Комуністычнай партыі Польшчы—гэта ня першы і не апошні радок. І кіруючыя клясы Польшчы мобілізуюць праз продажных газэтчыкаў грамадзянскуго развагу, падрыхтоўваючы першыя пагромы комуністых у абарону, быццым, тэрорыстычнай тактыкі Комуністычнай партыі Польшчы. Аднак працоўныя гушчы Польшчы ведаюць, што гэты адважны крок самаабароны гэроя-юнака не зьяўляецца тактыкай усяе Комуністычнае партыі і Комсамолу Польшчы, і што, наадварот, увесь Комуністычны Інтэрнацыянал ніколі не стаяў на пляцформе ідывідуальнага (асабовага) тэрору.

Рэволюцыя — ёсьць масавая прымуса, а індывідуальным тэрорам часта дасягаецца адваротнае. Комуністычны Саюз Моладзі і Комуністычная Партыя Польшчы павінны рыхтаваць найшыршыя рабоча-сялянскія масы шляхам шырокай выхаваўчай працы, агітацыі і організацыі мас і працы ў профэсыянальных саюзах.

Успамін аб Ботвіне дарагі кожнаму комсамольцу і ніколі ён не забудзецца аніводным сябром мільённай арміі Комуністычнага Інтэрнацыяналу Моладзі ва ўсіх частках зямное кулі.

*Вечная памяць гэрою-юнаку!*
*Прэч катаў рабочае клясы!*
*Хай жыве аслабаненьне працоўных Польшчы з-пад азьвярэлых паноў!*

**Выканаўчы Комітэт Комуністычнага Інтэрнацыяналу Моладзі.**

Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларусі.

# МАЛАДЫ АРАТЫ

Орган ЦК ЛКСМБ.

Двухтыднёвая часопісь Сялянскай Моладзі.

№ 9-10 | Жнівень 1925 г. | Менск



# Міжнародны юнацкі рух і заданьні комсамольца.

Сёньня мы сьвяткуем 11-ты Міжнародны Юнацкі Дзень, дзень падагуленьня дасягненьняў, недахопаў у працы і заданьняў сусьветнага комсамолу. Адзінаццаць год ужо мінула з тых часоў, калі працоўная моладзь пачала яднацца ў саюзы з мэтай барацьбы з сусьветным капіталам. Гэта было ў 1914 годзе, годзе ўзьнікнавеньня, добра памятнай нам, імпэрыялістычнай вайны, калі працоўная моладзь выступіла са сваім голасам супроць імпэрыялістычнае бойні.

Цяжкая, упартая барацьба, барацьба за права існаваньня саюзаў працоўнай моладзі адбывалася і адбываецца да нашых дзён.

Пролетарыят усяго сьвету меў і мае адзіныя імкненьні і мэты— гэта барацьба з яго прыгнятацелем-буржуазіяй, капіталізмам усяго сьвету, адкуль, яшчэ ў 1914 годзе ў гушчах пролетарскае моладзі зарадзілася думка: еднасьць у міжнародным, сусьветным абхваце. Але добра ведалі і ведаюць капіталістыя, што значыць рух моладзі ў комуністычным напрамку. Гэта для капіталістых —кол у магілу. І капіталізм упарта вядзе змаганьне супроць гэтага руху рознымі шляхамі: недазваляе organізоўвацца моладзі легальна, лепшых, перадавых таварышоў (Карл Лібкнехт і інш.) кідае ў турмы на некалькі год, адчыняе свае буржуазныя саюзы моладзі (хрысьціянскі і інш.) каб, як-небудзь захапіць шляхам абдурачваньня працоўную моладзь у свае саюзы, і буржуазнай моладзі мецца месца згуртаваньня з мэтай барацьбы з працоўнай моладзьдзю.

Гравюра т. Кашкеля




МЮД

Да 1919 году на ўсім сьвеце ня было адзінага асяродку, які-б кіраваў міжнародным рухам працоўнае моладзі.

Адна: стыхійны ўзрост, ня гледзячы на ўціск буржуазіі, ліку сяброў саюзаў працоўнае моладзі, прымушае правадыроў гэтага руху склікаць сусьветны зьезд дэпутатаў моладзі—імя якому—Першы конгрэс працоўнае моладзі, і закладае Комуністычны Інтэрнацыянал Моладзі.

Ужо да першага конгрэсу КІМ'у (які адбыўся ў Бэрліне) існавала 14 саюзаў працоўнай моладзі з агульным лікам сяброў у 229.000 чалавек.

Да чацьвертага конгрэсу КІМ'у (1924 г.) лік саюзаў узрос да 60, з агульным лікам сяброў у 1.000.000 чалавек.

Як бачым, наш міжнародны юнацкі рух расьце, шырыцца з кожным годам, становіцца, як сказаў на сьвяткаваньні пятых угодкаў КІМ'у т. Зіноўеў, сапраўдным магільшчыкам капіталізму, буржуазіі.

Цяпер, пры сьвяткаваньні XI Міжнароднага Юнацкага Дня, мы паглядзім, падагулім вынікі працы, паглядзім, у якім становішчы знаходзяцца саюзы моладзі, уваходзячыя ў склад Комуністычнага Інтэрнацыяналу Моладзі.

Сёньня па ўсім сьвеце мы маем два лягэры. Адзін лягэр гэта Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, у якім жывем мы, улада дзе знаходзіцца ў руках дыктатуры пролетарыяту гораду і вёскі, і другі лягэр гэта буржуазныя дзяржавы, пачынаючы ад нашай суседкі Польшчы і канчаючы далёкай Амэрыкай, Гішпаніяй, Японіяй, дзе ўлада знаходзіцца ў агідных лапах, пакуль што, магутнага капіталу, дзе рабочыя і сяляне знаходзяцца ў залежнасьці ад тамтэйшай буржуазіі, дзе ня толькі селяніну альбо рабочаму не дазваляюць узяць лейцы ўлады, але забараняюць бараніць свае інтарэсы, змагацца за сваё права існаваньня на сьвеце.

Вядома, між імі вядзецца барацьба не на жыцьцё, а на сьмерць.

І той пролетарыят (а яго больш чымся буржуазіі), які знаходзіцца яшчэ пад абцасам буржуазіі, вядзе барацьбу з ёй, працягвае рукі да нас, у свой пролетарскі лягэр—СССР.

Моладзь, як адна з актыўных перадавых сіл змагальніка-пролетарыяту гэтак сама змагаецца за сваю лепшую будучыну.

На штандары гэтага міжнароднага руху крывавымі літарамі напісана—барацьба, адкуль гэтая барацьба і вядзецца ўпарта, рашуча, дапамагаючы сталым рабочым і сялянам весьці барацьбу за лепшую будучыну сваіх дзяцей.

У нас у СССР—абставіны працы саюзу, разьвіцьцё і пашырэньне яго працы інакшыя чымся ў тых краінах, дзе ўлада ў руках буржуазіі і згоднікаў з ёй—соцыял-дэмократаў.

Існаваньне Комуністычнага Саюзу моладзі ў СССР, дазволена ўладаю, легальнае.

Ня тое мы бачым у капіталістычных дзяржавах. У Гішпаніі, Португаліі, Італіі, і ва ўсіх іншых дзяржавах, Комуністычныя Саюзы моладзі ўладай не дазволены, існаваньне іх забаронена, вядуцца суровыя праследваньні і ўціск з боку ўлады. І аднак, ня гледзячы на нелегальнасьць, ня гледзячы на недазваленьне існаваньня саюзаў, праца з кожным годам, на страх буржуазіі, узрастае, абхопліваючы ўсё большы і большы лік моладзі ў свае шэрагі, моладзь праводзіць актыўную працу сярод жыхарства, змагаецца з уладай буржуазіі рознымі спосабамі—пачынаючы ад распаўсюджаньня проклямацый саюзу і партыі, канчаючы выкананьнем прыгавораў партыі і саюзу над провокатамі, правядзеньнем масавых мітынгаў, сходаў, дэмонстрацый.

Дзьве розьніцы: у СССР руху пролетарскае моладзі ніхто не перашкаджае, ён што дзенна расьце, кожны дзень прыносіць новыя соткі комсамольцаў, якія, вырасшы, адукаваўшыся бальшавіцкай, ленінскай тактыцы прыдуць на зьмену нашым бацьком-рабочым і сялянам у будаваньні свае дзяржавы; у краінах капіталу кожны дзень прыносіць страты з ліку сяброў. Комсамольцу буржуазнай краіны кожны дзень пагражае захапленьнем яго ў кіпцюры паліцыі, у засьценкі турмаў, пагражае зьдзекамі, катаваньнем і нават карай смерцю.

У цяперашні час, калі буржуазія ўсю сваю ўвагу накіравала на змаганьне, упартае змаганьне з рэволюцыйным уздымам настрою рабочых і сялян, калі „здань комунізму“ павісла над буржуазіяй ня толькі Эўропы, але й Азіі, Амэрыкі, Афрыкі і Аўстраліі, калі прыгнечаны імпэрыялістымі Кітай пачаў абуджвацца, калі ў колёніях Ангельшчыны, Францыі, Гішпаніі адбываюцца паўстаньні за паўстаньнямі побач з нацыянальным за соцыяльнае аслабаненьне працоўнай моладзі ўсяго сьвету, а ў тым ліку і моладзі Савецкай Беларусі, трэба быць нагатове, памятаючы лёзунг на штандары Сусьветнага Комуністычнага Саюзу Моладзі—барацьба з капіталам, уся ўлада ў рукі рабочых і сялян усяго сьвету.

**Іл. Барашка.**




I.

За вялікай турэмнай сьцяною,
У пахмурай і сумнай каморцы
Ў неба гледзячы, з цяжкай журбою
Ля вакна прытуліліс два хлопцы.

Ў небе сонейка ясна іграла,
Стромка лёталі птушкі, пяючы;
А тых хлопцаў жуда заядала,
Выганяючы сьлёзы гаручы...

Сумавалі яны, бы саколы
Па навекі загубленай волі,
„Глянь, во птушкі лятаюць вакол
„У іх свабоды і шчасьця даволі.

„Эх! Чаму гэта мы не лятаем?
„Эх! Чаму мы людзьмі нарадзіліс?!
„Нас у турмах тады-б ня трымалі,
„Мы-б аб волі сваёй ня журылісь...

„Але мы нарадзіліс людзямі,
„Трэба выканаць доўг свой вялікі—
„Трэба ўпарта змагацца з панамі,
„Бо яны нас дзяруць, як ты лыкі...

„Мы вялікую справу рабілі,
„Пану крыкнулі: Жыць нам давай!!!
„Вось за гэта нас ўчора судзілі,
„Заўтра жыцьцю мы скажам: Бывай!“

II.

Яшчэ ноч са зямлі не схадзіла,
Чуць сьвітала на ўсходзе зара
Іх паліцыя ў лес прыкаціла,
Дзе вялікая села гара.

На гары скрозь імглу цёмнай ночы,
Два слупы ды з пятлямі чарнеюць,
І ад крыўды заплакалі вочы—
„Бы сабак... нават кулі шкадуюць!..

Колькі крокаў—і бедныя хлопцы
Ой з пятлёй ды на шыях стаялі
На гатовай, сасновенькай лаўцы
Ды апошняй хвілінкі чакалі...

Колькі думак у іх праняслося
Ой ды ў гэты кароценькі час:
„Вось хвілінка—і вось асталося
„Толькі цела—няма ужо нас...

„Але справа працоўных ня згіне,
„Ў пух патрушацца панства кароны;
„Селянін пану сам пятлю ўскіне
„Двух няма—асталіся мільёны!

„Ас... два... тры!“, загудзеў чыйсьці голас
І зваліліся лаўкі пад імі,
Загайдаліся хлопцы, бы колас,
Захрыпеўшы грудзьмі сваімі...

III.

А назаўтра у роднай хаце,
Там, дзе хлопцаў жандары ўзялі,
Сірацінка сядзела—маці
І ракой яе сьлёзы цяклі...

Ціха. Пуста. Пахмура ў хатцы.
Дзе вясёлыя дзеліс сыны?
Б'ецца птушкаю сэрца маткі
Енчыць матка: „Мае сакалы,

„Дзе за працаю сьпеў ваш галосны?!
„Дзе бадзёрыя гутаркі, сьмех?!
„Не пабачу. Ня ўчую, бо злосны
„Пан ад маткі вас скраў на век!“

---

Гэй, матуля! Ня плач, ня журыся!
Не аднэй табе гэткае гора,
Сёньня сьлёзы у рэчку зьліліся,
Заўтра іх набяжыць цэла мора!

Плачаш моцненька ты не адна,
Ёсьць на сьвеце гаруха другая,
Што ня ведала шчасьця. Яна—
Беларусь наша, матка радная!

Плача сумна яна над сынамі,
Што ляглі паміж родных абшараў,
Але й помніць: ня вернеш сьлязамі
Рэвалюцыяй ўзятых ахвяр.

**Ул. Кавалёў.**



# У купальскі дзень.

(*абразок з комсамольскай працы*).

Дзень Івана Купалы. Сонейка выкацілася з-за бору і сваімі ласкавымі, цёплымі праменьнямі бегала па лісткох росных расьлінак. На дварэ ў дваццаць галасоў крычалі куры. Працяжна й прыемна кувала зязюля на Паўлавай ліпе.

Комсамолец Ціт падняўся з пасьцелі, старанна апрануўся, узяў учора атрыманы № 6 „Маладога Аратага“ і вышаў у агарод. Ён любіў заўсёды рана ўставаць, а тым больш у сьвяточныя дні, калі спакайней можна што-небудзь пачытаць і напаіць сваю постаць чыстым паветрам.

Ціт сеў на пярэкляці, разгарнуў часопіс і пачаў чытаць апавяданьне „Зоська“. Чытаў з вялікім захапленьнем і нябывалымі перажыткамі. У сучасны момант яго твар—быў кніжкаю. На ім мільгала то белапанская окупацыя, то партызаншчына. Словы: Андрэй, Зоська—напаміналі яму партызан свае і суседніх вёсак.

Ціт пакінуў чытаць... У яго ваччу мільгалі панскія зьдзекі над братамі і дзядзькам. Старэйшы брат, каб ня бачыць больш такіх зьдзекаў, як пакінуў вёску, так яшчэ і сёньня да яе не зьвярнуўся. Дзе ён—ніхто ня ведае.

А такі слаўны быў хлапец. Уся вёска любіла яго, моладзь паважала і заўсёды з зацікаўленасьцю слухала яго словы.

Часам узьбяжыць на памяць маткі сын, заплача яна бедная, пакоцяцца па твары буйныя каплі сьлёз, сьцісьне нешта старыя, худашчавыя грудзі, тады яна пакідае хату і йдзе ў гульню... Ня хоча паказваць свае сьлёзы дзецям.

Ціт усё гэта разумеў і чым мог супакойваў матку. Пры ёй ён стараўся ня плакаць, хацеў паказаць сваю ўтрыманасьць і моц, але як дзе аднаму прыпомніцца ўсё гэта, тады мімавольна вочы заплываюць сьлязьмі...

Ціт падняўся... — Эх! каты... крыва...пійцы!— у поўголаса прагаварыў ён.

— Хутка 11 ліпня... Дзень вызваленьня... прыходу чырвоных... Як гэта, каб добра адсьвяткаваць, каб пакінуць яшчэ ў большай памяці ўсе белапанскія „гасьцінцы“?

Увашоў у хату, узяў шапку і вышаў на вуліцу. Прыпомніўшы, што учора прыехаў з Менску студэнт-комсамолец Кірыла Трэскін—пашоў да яго.

Трэскін чытаў тэзісы ЦК партыі для дакладу аб 11 ліпні. Убачыўшы Ціта, пакінуў чытаць і пачаў распытваць, як яны рыхтуюцца да сьвяткаваньня дня вызваленьня.— Хто тут будзе рыхтавацца,— пачаў Ціт,—адзін я во бегаю і ня ведаю, што рабіць. Прышоў да цябе, ты павінен мне дапамагчы.

— Калі ласка! з вялікаю ахвотаю!

— Што, браток Кірыла, рыхтавацца, калі жаднай дошкі ў школе няма: няма дзе сесьці і няма з чаго сцэну пабудаваць,—бедаваў Ціт.

— А хіба-ж нарэзаць ня можна?—пытаў Трэскін.

Пагаварыўшы троху, хлопцы знашлі неабходным пайсьці на стары магільнік, зрэзаць пару сасон і нарэзаць дашок.

Кірыла ўзяў тапор, Ціт—пілку і пашлі ўздоўж вёскі. Па дарозе да іх далучаліся хлопцы—дапрызыўнікі і пераменьнікі.

На задуманае хлапцамі вельмі горача адзыўнуўся сябра сельсавету т. Пабедны і дастаў пару падоўжных пілак.

Адзін дапрызыўнік узяў гармонік і вясёлая група хлапцоў пад зыкі гармоніку пашла далей.

Як заўсёды ў сьвята, старыя сяляне павыходзілі на вуліцу, паселі на прызьбе і талкуюць—хто аб чым.

Прачуўшы, што комсамольцы з хлапцамі ідуць на могілкі рэзаць дошкі, ды яшчэ вялікім сьвятам —„Купальлем“, больш заможныя гаспадары паднялі вэрхала.

—Так мы ім,—чуўся з грамады хрыплы голас заможніка,—дазволім рэзаць сосны? Хай вырасьцяць, а потым, што хочуць хай тое і робяць! Сьпіктакаль гатуюць... Вядома-ж нехта на яго пойдзе!

Некаторы час маўчаньне. Потым парушыў яе адзін, нізкага росту, селянін сваім адказам першаму:

—Што табе шкода? Няхай рэжуць ды майструюць. Ня пойдзеш ты, так дзеці сходзяць, а яны гэтымі шпіктаклямі вельмі цікавяцца.

Бачаць хлопцы, што і сяляне за імі, зацягнулі частушкі і шпарчэй пашлі на магільнік...

— Ш-шась—шась, ш-шась—шась,—запела вострая пілка.

—Гак! Гак!—застукаў сталёвы тапор.

—Г-ро-рох!—рухнула на зямлю стройная, тоўстая сасна.

Прыняліся за працу. Усё так люба і прыемна.

Схапілі хлопцы бервяно, як пярынку палажылі на казлы. Узьлез Ціт на верх, стаў босымі нагамі на смольнае, яшчэ жывое, дрэва, пара хлапцоў узяліся за ручкі ўнізе, зашаптала пілка і пасыпала жоўценькае пілавіньне-крупкі.

Гармонік ня сьціхае. Песьні і сьмехі доўгаю хваляю плывуць у вёску.

Прышла чарада дзяўчат. Яшчэ больш напоўніўся стары магільнік маладымі песьнямі і сьмехам. Больш вёрткія і дасьціплыя дзяўчаты—вучацца пілаваць...

Праца скончана. Вясёлая арава хлапцоў і дзяўчат накіравалася ў вёску. Сяляне, як быццам, іх чакалі. Уся вуліца запоўнена чырвонымі хусткамі і сівымі барадамі...

Сьціхнуў гармонік. Суняліся хлопцы, пагутарылі з сялянамі аб „Купальлі“, адказалі на запытаньні і яшчэ з большым запалам пашлі да хаты.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сонца схавалася ад людзкога вока. Ціт узяў пад паху балалайку і зайграў „Лявоніку“. У яго на душы было вялікае сьвята. Ён бачыў вынікі свае працы.

А каля школы ляжала куча беленькіх,новенькіх дашок.

**Зьм. Паваротны.**

# ВЕРШЫ

## Я успомніў сягодня дзяцінства.

Песьню жнеяк у полі пачуўшы,
Я успомніў сягодня дзяцінства,
Як яно мяне, ў лапці абуўшы,
Гнала пасьвіць кароўкі на ржышча.

Не сваё тады пасьвіў я стада
Ды на гонях таксама чужацкіх,
Ў аднаго толькі ўмёршага дзеда,
Майго дзеда, зямлі было сажань.

Я служыў за кажух абарваны
Ды за панскія боты нязноскі,
За бізун, што рабіў часта раны
Ды за лаянку-крык аканомскі.

Але песьня сягодня ня тая,
Што пяялі калісьці там жнейкі,
Дык мінуўшчына скора зьлятае,
З маіх думак, бы з ветрам авейкі.

Я пазбыўся пражытых гадочкаў,
Што кавала няволя іх путам,
І вось сёньня ў радох комсамольскіх
Ў мяне радасьцю сэрца акута.

Бо ад цяжкага сёньня прыгону
Не асталася нават і сьледу,
На шырокім жыцьцёвым загоне
Новым плугам арэ шчасьце глебу.

С. Шушкевіч.

## Беларусі.

Я помню дні... Паўстаньнямі палалі,
Палалі вёскі й сэрцы мужыкоў...
І ружавелі зарывамі далі...
Сьціхаў над краем звон акоў.

Я помню дні... Дваццаты партызаніў
Сярмяжнай рацьцю ў зрэб'і ды лапцёх.
Шумелі дні...
Пажарамі й паўстаньнем
Ўставала новае жыцьцё.

Шумелі дні... Адзеўся край у чырвань,
Пабедай сьцягі веялі ўгары.
Дваццаты быў...
І панства з корнем вырваў
Магутнай сілы ўзмах-парыў.

А з-за палёў стаптаных, зьбітых коньмі,
А з-за пажарышч, дзе йшчэ дым ня зьнік,
На новы шлях, на шлях магутна-вольны
Уставалі дні...
Другія дні.

О, вольны край! Ня будзеш больш ў няволі!..—
Ў грудзёх магутнай сіле не астыць...
І к новаму ў чырвонавейныя раздольлі,
Мы клалі новыя масты.

Алесь Звонак.

## Ой, вы кудры...

Ой, вы кудры, хлапца чорна-русыя,
Вы чаго завіліся так хмелем?
Разгадаць вашых дум не бяруся я,
Не бяруся і іх памеліць.

Сочнай песьняй ня думаў чарпаць я
Глыбіню нявыразных слоў.
Хіба-ж лепей змаўчаць апатыяй,
Як маўчаў сіня-карым бровам?

Можа гэтым падумаеш здрадзіў?
Ды аб чым-жа было гаварыць...
Мо' аб тым, што ў блакіце акрайцам
Белы месяц хмурынкі парыў?

Ці што зорка ўдалі за прысадам
Старчаком шуганула ў палосы?
Не, ня трэба, ня трэба адгадваць
Цяплыню шаўкавістых валос...

...Мы сьмяяліся сьмехам нясьмелым,
Як сьмяецца раса ў раньнім сонцы.
Мае грудзі гарэлі і млелі,
А я думаў: ну, проста спрасоньня.

Заламала мне рукі дзяўчына,
Прыхілілася тварам агністым.
Хіба-ж сэрца душа не адчыніць,
Як схіліліся бровы нізка?!.

Саша... Саша... а болей змаўчу я.
Толькі вочы, як тыя вугольлі...
Я ня ведаў дзяўчыну другую,
Каб жацьцё ўскалыхнула болей.

Я спытаўся: (ну, неяк зьнячэўку,
Можа й дрэнна таму, што ў суботу)—
Слухай, Саша, а як з ячэйкай
І даклад аб паветраным флёце?..

І ўспырхнула птушкаю дзікай,
Закружылась, як вір, галава.
—Прабачай, ужо дзесяць гадзін...
...Зашаптала ў тумане трава.

* * *

Чаму ўспомніў цябе я у песьні,
Бо ня ведаў яшчэ другую.
Ўскалanулася сэрца, Алеся,
Праз цябе, праз цябе маладую.

Ой, вы кудры хлапца чорна-русыя,
Вы чаго завіліся так хмелем?
Разгадаць вашых дум не бяруся я,
Не бяруся і іх памеліць.

А. Якімовіч.

# У хвалях жыцьця.

*(Апавяданьне).*

I.

...І хто яго ведае як гэта трапілася?!

Заўсёды так у жыцьці: з маленькага няпрыкметнага вырастае вунь якая граміла, з аднаго ненарокам кінутага погляду, з цікавага ўзгляду раджаецца глыбока гдзесьці ў сярэдзіне толькі іскра нейкай нераўнадушнасьці, якая потым гарыць каханьнем...

А то і зразу.

Зразу ўсхліпвае і абхапляе ўсю істоту палкае і засмаглае каханьне, каханьне, якое нічым утушыць немагчыма...

Так і ў Анелькі—дагэтуль жылі, можна сказаць, суседзьмі былі, часта сустракаліся, але ніколі гэтага ня было, як сягоньня...

Яшчэ з паўдня Анелька ведала, што вечарынка на хутары будзе і захацела схадзіць туды, час правесьці, а то ўжо дома надакучыла швэндацца без адпачынку каля гаспадаркі.

— Хоць прайдуся, весялей будзе!..

І здаволена Анелька ўсьміхнулася ўсьмешкай маладой, сакавітай... Вусны пацалункаў просяць.

Задумаецца крыху, а потым, страпянецца птушкай злоўленай і зноў пачне ўвіхацца каля гаспадаркі спрытна, жвава.

— Хутчэй-бы спарадкаваць усё... Кончыць!

Як і заўсёды, Анелька на вечарынцы вясёлай была, гуляла, песьні пела, з другімі дзяўчатамі розныя гульні выдумляла. Пазайздросьціць толькі яе вясёласьці; здаецца пазычыў-бы, хоць на гадзіну яе гарэзьлівасьці, бурнай нясутрыманай радасьці...

Ды як-жа гэта?.. Немагчыма?!

Ох магчыма! Трэба толькі сыйціся з ёй, зірнуць у яе васількова-льняныя вочы, падставіць сваё сэрца пад гульлівы дождж яе заразна-вясёлых слоў—як і не агледзішся, а ўжо сам захоплен вясёласьцю і радасьцю існаваньня...

Тады песьні плешчуцца...

А тут адчула Анелька, нібы промень якісь працяў яе, нешта зарупіла ўгледзецца ў вочы яго... Заўсёды бачыла, а сёньня ўгледзелася.

У разумна-карых Пятрусёвых вачох агонь палыхаў, у іх рвалася на волю сіла, жаданьні, пачуцьці нязьведаныя... Гэты прамяністы агонь абхапіў ужо яе, Анельку, і закружыў у дзівосным карагодзе думак і пачуцьцяў розных... Гэты погляд да сэрца дашоў і расплыўся шырока, напаўняючы цяплом прыемным...

Глянула Анелька на Пятруся ды ўжо ня так, як калісь і на другіх...

Погляд яе вочак гэтак сама для Пятруся абяцаў шмат.

А потым і рупіць стала. Куды не паверніцца ён—там і вочы яе. І паказалася Анельцы, што ўсё ў яго прыгожа, усё яму да твару, спадабалася раптам ёй і рухі яго, жартаўліва-вясёлыя словы, паходка. Толькі вочы яго колкія вельмі, глядзець у іх немагчыма.

Але гэта цяпер—а там пройдзе!

Вышла на двор прахаладацца, за ёю Пятрусь. Падышоў да яе, за руку ўзяў...

— Анелька, пройдзем!?.

— Ідзём!

Сказала Анелька і спужалася сваіх слоў, гэтак адкрыта, бяссорамна, першы раз...

Хадзілі доўга па сьцежцы, што вужакай круцілася каля хутара, ноч нямая туліла іх.

А потым дамоў яе правёў, гаварылі шмат аб чым, аб жыцьцёвым, жартавалі. Але каб цяпер папытаў хто ў іх, аб чым была першая гутарка—напэўна не сказаў-бы ніводзін.

Ляжала Анелька на ложку, песьцячы ў мяккай цёплай пасьцелі сваё маладое крамянае цела, хуталася валасамі доўгімі, пшанічна-льнянымі, а ў галаве думкі... Непакойна-ліпучыя, надаедлівыя, усё Пятрусёвы словы лагодна льлюцца, пераліваюцца, сьмех яго ў вушшу музыкай аддае...

А ў вачох Анелькі... Ці ты іх самкні, ці расшчыні і глядзі ў бяздонь цемнаты—усё роўна ён мітусіцца... Сьмяецца, дражніць, у абоймы схапіць жадае...

І назаўтрае таксама. То работа пішчом лезе ў рукі, то кінуць-бы яе, стаць і думаць-марыць аб вачох карых на твары любым... аб Пятрусю.

— Няўжо... няўжо люблю?!

Спуджана-радасна кіне сабе Анелька, і ўсьміхнецца, а потым уздыхне, і зноў за працу.

Бягуць дні. А на сэрцы ў Анелькі што робіцца—ня высказаць. І стала ўжо перад ёй у поўную шырату, што жыцьцё яе—гэта каханьне яго, Пятруся, шчасьце—абнімкі яго жартаўліва-недарэчныя, радасьць—пацалункі яго вогністыя...

Стаяў млява-пагодны дзень, адзін з тых дзён, якія рэдка калі бываюць у Пятроўку. Ветрыксваволец дзяцёнкам качаўся па кустох, разьдзьмухаў высокую траву някошаную, перабіраў і расьцярушваў пакосы і казытаў твар Анелькін.

Тады апусьціць граблі яна, успрэцца на іх і вочкамі блакітнымі ў лес цьмяны ўцячэ. А то кінецца ў валок пахучы, схопіць колькі можа ў абоймы сена сьвежага, камяком прыцісьне да грудзей сваіх пульхных, аж зубкі сашчэрыць і ў істоме адкінецца дагары закінуўшы рукі за галаў...

У адзін з такіх уздымаў, Анелька лежучы ў сене марыла і цераз хвалюючую страсьць кінула:

— Люблю яго!.. Люблю, вот што!..

А ветрык-жартаўнік падхапіў ужо і мала таго, што ўсюды разьнёс ненарокам выказаную думкумару дзяўчыны, а і да вушэй мацеры датарабаніў...

— Анелька?.. Каго-ж гэта ты любіш?.. Бацьку свайго?..

Кінула погляд яна на мацеру, чырваньню суніцы твар яе ахварбаваўся, вочкі плянёнкай сораму зацягнуліся, але бегаюць у іх агоньчыкі ўпэўненасьці выказанага і рашучасьць.

А ў мацеры ў куткох вуснаў сьмех гуляе. У вачох нешта, што і згадаць трудна. Пэўна ўспомніла і яна свае годы маладыя, увабраныя ў вясноўскія кветкі каханьня, а тут ужо і дачка...

— Я так сабе, мамка!.. От нешта ўспомнілася!..

І ўтупілася, урылася глыбока ў валок Анелька, сорамна неяк стала, што зманіла матцы.

— Успомнілася... Пятрусь успомніўся... Ой, глядзі дзеўка!..

І хто яго ведае што рабіць?.. Ні-то стыдацца трэба слоў гэтых, ні то баяцца... Але Анелька паднялася і зноў пачала варочаць сена, хоць-бы ён не стаяў так у ваччу...

— Значыць ужо бацькі ведаюць... Ведае маці, ну, пэўна, ведае і бацька. А ні разу не заікнуўся пра Пятруся... Але што там... Няхай ведаюць!..

І радасьць сэрца працяла.

Вечарэла. Сухое сена тлела араматам адмёршых красак. З балота плыло крахтаньне і куваканьне жаб, траскуча дзёрся ў кустох дзяргач. Маці наперад пашла. Анелька нечага прысталася і ішла адна, любуючыся хараством вечара. Анелька, як здавалася ёй, піла ўвесь гэты аромат, усё здаровае паветра.

І жыць зажадалася жыцьцём шчасьліва-непарушным, поўным радасьцей нязьведаных...

Гэта магчыма, абы быў каля яе Пятрусь.

І раптам, ён. Загарэлы з касой, граблямі на плячох, з весела-разудалай песьняй, Пятрусь варочаўся дадому з сваёй пожні.

— Анелька, любая...

З радасьцю непадробленай, з усьмешкай шчасьлівай падышоў да яе Пятрусь.


Спортыўнае выступленьне піонэраў.

— Пятруська... Як-жа гэта?!.

І абняла аднэй свабоднай рукой за плечы Пятруся. Ёй жадалася зусім адкінуць граблі, і гэтыя загарэлыя дужыя рукі свае закінуць яму на шыю і сьціснуць да болі.

— Анелька, сядзь... Усё роўна работы не пераробіш, напрацавалася, відаць, і так дужа, можна адпачыць...—і сам, палажыўшы касу з граблямі, сеў пад арэшынай. Пасядзім трохі, дамоў пасьпееш... Ды мы і так ніколі пагаварыць ня можам...

— Праўда, Пятруська!

І міжвольна апусьцілася побач з Пятрусём Анелька. Радасна было, што з любым чалавекам адзін-на-адзін сядзіць, не баіцца яго, але сполах бярэ, як хто падгледзіць іх ды бацьком тады перабрэша...

— Эт, чорт яго бяры!.. Што будзе, то будзе... Усьміхаецца Пятрусь усьмешкай добрай, радаснай і Анельку захапляе гэта радасьць, яна туліцца бліжэй да яго, целам сваім уздрыгвае...

— Анелечка, я сёньня ўсё ўжо скажу. Даўно мецiўся, а усё ня было як, не выпадала, а сягоньня і ня думаў нават. Паверыш, дарагая, нешта ты моцна і назаўсёды засела вось тут, у грудзёх маіх... Не даеш мне сну, думаць інакшыя думкі, акрамя аб цябе, спакою не даеш... Даўно хацеў сказаць, а вось не рашаўся ўсё...

Анелька, прынамсі, чакала гэтага, але пры першых яго словах сэрца яе неяк зашчымела, у вачох сьнег зацярушыўся...

— Выкінь Пятрусёк, калі я вельмі табе спакою не даю... Я так, здаецца, ніколі не хачу табе зрабіць. Я хачу, каб ты вясёл быў, заўсёды, каб...

— Калі-ж не магу!.. Ведаеш, Анелька, не магу!.. Ты гэта і сама добра ведаеш, толькі кажаш зусім другое... Ты мая павінна...

— Як твая?..

Не здагадалася адразу Анелька.

— Мая!.. Значыць жонкай маёй павінна быць... Каб назаўсёды разам былі, ды пілі з аднэй чаркі шчасьце сваё... Ну што, цяпер ведаеш, Анелька?

— Ведаю!..

Ціха кінула яна, і, схіліўшыся пачала скубсьці траву каля сябе. А потым як-бы ўздумаўшы.

— Пятруська, дык я яшчэ маладая... Замуж не пайду, дый і бацькі не аддадуць.

— Аддадуць, Анелька! Мы-то калі што, дык і бацькоў мала пытаць будзем... Проста... Абы толькі любілі адзін аднаго... Ну, а як ты мяне?.. Анелька?

І зноў змоўкла яна, толькі ўсхліпнула вочкамі васількова́мі, абцярушанымі ценьню даўгіх павек, ды па малочным тварыку чырвань зарніцы адбілася... Зірнула зноў у вочы яго і... раптам абхапіла рукамі шыю Пятрусёву.

— Пятрусёк, міленькі... Ды я люблю цябе... Люблю, як жыцьцё сваё, як сябе... Я без цябе, не магу...

Вугольлем гарачым загарэўся Пятрусь, сьціснуў стан яе хрупка-крамяны...

Вуснамі сваімі яе гарача-сакавітыя знашоў, упіўся ў іх... аж галава закруцілася...

Вечар прыпаў к цёплай зямлі і настаражыўся. А ветрык трапеў і сьцішка падслухваў гамонку ды жарты недарэчныя...

— Пятруська!.. Пят...

— Кахаеш?

— Любая, кахаю!

— Любы! Пятруська!

І ночка засьцілала сваім коўдрам іхнія цені.

II.

Не адзін так вечар правялі Пятрусь з Анеляй, упіваючыся шчасьцем узаёмнага каханьня. Ведалі добра пра іх каханьне і бацькі, як Анелькі так і Пятруся. Пятрусь толькі выжыдаў часу, каб як скруціць вясельле з Анелькай. Але не ўдалося. Чуткамі ўскалыхнулася вёска, што палякі-памешчыкі, якіх Савецкая ўлада выперла з іхніх маёнткаў і пусьціла бадзяцца па Польшчы, гэтыя памешчыкі самі і з жаўнерамі, на свае грошы нанятымі—ідуць сюды ў мужычую старонку, каб зноў асесьціся тут.

— Ну, дзяла будуць самыя што ні наплёвыя, калі яны прыдуць!..

— Дадуць колькі ня хочыш, у гэтую...

— Ого!.. Яны цяпер, як ваўкі галодныя...

Так гаварылі паміж сабою сяляне, сабраўшыся кучкамі ў сьвята.

Гаварылі шмат, дагадваліся, што будуць паны катаваць іх, зямлі не дадуць, а і тую адбяруць, якую атрымалі...

— От гляді ты, за Савецкай уладаю ўжо нам палепшала. Зямлю з сенакосамі панскія падзялілі, куды свабодней стала...

— Не хваліся!.. Як прыдуць паны, дык назад адбяруць... Ня будуць глядзець табе ў зубы!

— Ці чорт ім?.. А зрэшты ўсё можа быць!..

І ўжо спуджана прыслухоўваліся сяляне к прыкрым навінам.

Аднойчы камісар вайсковы з чырвонаармейцамі ў вёску заехаў і сход сабраў. Як заўсёды (а тут асабліва ў такі трывожны час) на сход прывалила ўся вёска, моладзь—тая наперадзе!..

— Дарагія таварышы! Паны, якіх мы прагналі адсюль, а іх маемасьць і зямлю вам, сялянам аддалі—ізноў хочуць прысьці сюды, каб запанаваць у сваіх маёнтках, жыць у багацьці і золаце, а вам даць: голад, зьдзекі за перажыты імі страх, бізуны, і сьмерць за адабраную ў іх зямлю... Вось што для вас, сялян, гатуе польскі пан з наймітамі сваімі, якіх вядзе за сабою...

— Ня будзе гэтак!.. Маць яго дрындалы!.. Ня так!..

— Спухнуць яму, а не зямлю, на якой дзяды нашы крывавымі мазалямі хлеб калупалі!..

— Мы і без паноў пражывем... Бальшавік няхай...

— Даць гарту!.. Жалеза яму, а не зямлі.. Адбіць трэба!..

Папала грамада на разухабістую... І прарвалася. Моладзь тая гарой стала, адно даводзіць:

— Дык што-ж і рукі палажыць?.. Абараняць!.. Абараняць!..

— Ну дык як абараняць?.. У шэрагі арміі трэба!..

Кінуў думку сваю Пятрусь.

— У дабравольцы!..

Загарэліся вочы ў камісара, чырвонаармейцы ўсьміхаюцца радасна; новая сіла прыбывае...

— Адно толькі выйсьце ў нас, у дабравольцы хадзеце!..

Зноў раўнула і загула грамада галасамі рознымі, з-заду кулакі вясковыя краҡталі.

— А бач куды гне злодзей?! У дабравольцы!.. На які чорт!. Жменькай гэтых бараноў фронту не затрымаеш...

— Чаму?.. Гы-хе-хе-хі... Затрымаюць... Аж за Бярозай...

Ціха—агідна шапталіся паміж сабою самае заядлае кулаччо вясковае. Аж тут Антось пачуў, самы пролетары вясковы, злосьцю нясутрыманай, працяўся к павукам гэтым, абіда на іх ужо даўно гарэла ў сэрцы...

— Цыц!.. Ввашу маць!.. Вось я вас калі хочаш затрымаю... Зараз будзеце, дзе трэба!

— Вон са сходу! Вон кулаччо праклятае! Кроў драпежная...

Ужо не на жарты ўсхадзілася бедната. Як гадзюкі, адзін за другім, без аглядкі, выпаўзьлі з хаты кулакі.

— У дабравольцы... і ўсё тут!

Рашуча гукнуў Пятрусь і запрапанаваў камісару сьпіс саставіць на моладзь, жадаючую ўвайсьці ў шэрагі Чырвонай арміі.

Уся моладзь вёскі запісалася, Пятрусь—першым. І толькі пасьля таго, як ужо запіс прашоў і камісар схаваўшы сьпіс, абвясьціў збор усіх дабравольцаў—тады Пятрусь успомніў аб Анелі.

— Як-жа яе пакінуць?.. А каханьне маё?.. Пакінуць любую, дарагую?!.

Мітусіліся думкі, але грамадзянскі абавязак заглушаў усё, узяў верх і перамогу над пачуцьцём...

Адна ночка сумесная і Пятрусь раніцай ледзь золак браўся-выбраўся з вёскі. Невядома што ў іх было ноччу, якая размова, якое адвітаньне, а толькі праваджаючы Патруся, Анелька з усьмешкай гаварыла яму:

— Любы мой, бі іх там, морду панскую і хутчэй дамоў варочайся, бо ведай, што я чакаю цябе!..

— Добра, мілая! Пакуль ня зьнішчу іх—дамоў не вярнуся!

Адвіталіся шчыра, горача. Ужо сонца запісягавала чырваньню па небе, а потым пацалункам сваім к траве роснай прыгнулася, ды адбілася вясёлкою ў пацерках сьлёзках Анелькі...

Яму патачкі не хацела даць а як пашоў, ну дык сутрымацца нельга... Шкода любага!..

А за чуткамі зараз і грукат гармат пачаў даносіцца. Як-бы гром то быў. Глухі, адрыўчаты... Штодзень—бліжэй пасоўваўся на вёску страх нечага вялізнага, агідна-сьмяротнага... Прыслухоўваліся ўсе сяляне да гукаў гэтых і трывожыліся...

— Няйначай паляк тут будзе!

— Не!.. Здаецца ўжо грукат адкаціўся!..

— Як-бы!

А гром гармат усё падбліжваўся. Зараз у вёсцы чырвонаармейцы пачалі браць харчы для арміі, адступалі некаторыя тылавыя часьці, ужо відаць было, што палякі могуць быць у вёсцы скора.

А тут хлопцы некаторыя пачалі прыбягаць дамоў, кідаючы аружжа, дэзэртырамі зрабіліся... Хаваюцца па пунях, ды лазьнях...

Сьціхла... І толькі ў адну прыгожую раніцу зусім недалёчка ад вёскі засакаталі кулямёты, вінтовачныя стрэлы перамяшаліся...

Здагадаліся ўжо ўсе, што паны ўжо тут... Абіда і злосьць тачыла грудзі кожнаму селяніну, ды спагнаць яе ня было на кім, а тут сполах яшчэ...

— Эх, мне-б вінтоўку! Я-б ня пусьціў... Я-б гэты...

— Дык бяры!.. Дадуць!

— Эт, што гаварыць!

— Хавай коні!

І паімчаліся мужчыны з коньмі ў пушчу. Напружна чакалі.

А Анелька пасвойму думала.

— Дык як-жа-ж гэта?! Няўжо Пятруська сядзіць дзе злажыўшы рукі? Няўжо-ж прыдуць паны да нас? А Пятрусік дзе будзе?.. Пэўне не астанецца тут. Што-ж будзе тады?.

— Сынок, ці на доўга к нам? Ці прыдуць паны сюды?.. Мо' вы іх адрэжэце?—пытаў бацька ў Пятруся з трывогай у ваччу.

— Адступаем, але мы скора вернемся! Упэўнена казаў Пятрусь.

— Дык ты, Пятрусік, едзеш з бальшавікамі?.. Не астаешся?.,

Спуджана папытала маці.

— Еду! Я сам бальшавік, а ні пан які-небудзь. Што-ж я буду дома тут, зьдзекі белагвардзейскія цярпець, бізуны атрымліваць?..



Ясьлі. Кармленьне дзяцей.

Вечарам, як сьцямнела ўжо, залапатаў конь пад вокнамі хаты Анелькі, і стаў у воротах. Кінулася к вакну яна, нібы сэрца падказала нешта, і ўбачыла вайсковага нейкага, чырвонаармейца, які ўжо ўзводзіў каня на двор.

Ніхто ня вышаў на двор—усе думалі, што які-небудзь чырвонаармеец паесьці заехаў, а мо' і пераначаваць. Толькі ў Анелькі нешта сэрца трапела ня сунімаючыся.

Увашоў у хату чорна-загарэлы, стройны, абвешаны аружжам...

— Добры вечар!

— Пятрусёк... Галубчык!.. Даражэнькі мой!

З радасьцю нясутрымана кінулася дзяўчына к Пятрусю і ня гледзячы, што і бацькі тут—павісла ў яго на шыі. Цалаваліся.

У мацеры аж сьлёзы на вачох выступілі. Як роднага, як дарагога госьця прынялі, накармілі Пятруся.

— Ну добра!.. А вось амаль усе нашы хлопцы дома, паўцякалі ад бальшавікоў... І ты-б, Пятрусік...

— Няхай уцякаюць. Злачынцы!!! Здраднікі! Вось каб яны не дэзэртыравалі, хто ведае, мо' мы і не дапусьцілі-б сюды паноў, а цяпер няхай пагартуюцца пусьціўшы ў сваю хату злодзея. Але што я кажу?.. Пан—страшней злодзея... А вы мне нават і не гаварэце, каб я астаўся—нічога з гэтага ня будзе! Я еду!

Затрымцела Анелька пачуўшы рашучую пастанову Пятруся, к горлу падкацілася нешта, слёзы самі сабою...

— А калі-ж ты едзеш?—нясьмела праз сьлёзы папытала.

— Ужо! Цяпер... адставаць нельга, каб не папасьціся ў рукі белапалякам, наш полк зараз будзе ісьці, а я вось адпрасіўся... Заехаў паглядзець на вас і разьвітацца...

Пачаліся ўгаворы, каб Пятрусь астаўся, перахаваўся ўвесь час, як будуць палякі, але нічога не памагло.

— Конь, аружжа, дысцыпліна... Я гэтым страчу гонар чырвонаармейца, грамадзяніна Рэспублікі Савецкай... Дзіва, як вам магла прысьці такая думка?

Ніхто ўжо не перапыняў Пятруся.

— Так трэба!.. Добра робіць!—нарэшце вырвалася ў бацькі Анелькі.

— Папомніце вось маё слова, што гэтыя самыя дэзэртыры будуць па лясох хавацца ад палякоў.. Партызанамі будуць... Няхай вось толькі паспытаюць бізуна і шомпала панскага.

Сабралі ў дарогу Пятруся, як роднага сына. Ноччу выехаў ад Анелькі Пятрусь. Яна за вароты яго праводзіла. Рыпнулі весьніцы, затрымцела сэрца дзяўчыны.

Першы раз яна выпраўляла яго і чакала, што скора вернецца, а цяпер... Хто яго ведае?... З Пятрусём усё ехала: радасьць, шчасьце, ружовыя надзеі... астаецца пан польскі, зьдзекі... І міжвольна заплакала дзяўчына, прыпала к грудзям Пятрусёвым.

— Анелька!.. Ня плач, я вярнуся скора, і ўжо ніколі ад цябе не паеду... я абараню цябе, любая...

І цісну́ў к сабе Пятрусь дзяўчыну, захопленую дзівосным трапятаньнем, песьціў, лашчыў у сваіх моцных абнімках цела яе крамянае, цалаваў твар у сьлязах...

III.

...Прышлі яны.

Прышлі і прынесьлі з сабою ў карабінах шомпалы, бізуны, каб пісягаваць сялянскія сьпіны, прыцягнулі дрот калючы, каб акромя сябе абароны—рваць ім мужыцкае мяса на кавалкі. Адбудавалі ня школы, больніцы, тэатры, а знашлі муры ў якіх будзе гніць жыўцом працаўнік за мазоль свой крывавы, не ваяваць ішлі яны, а расстрэльваць спакойнае, безабароннае сялянства. Сьмерць, зьдзекі, пакуту прынесьлі з сабою паны... І зараз-жа ўсё гэта адчулі на сваім гарбу сяляне, а Мікола гаспадарны селянін, самы рупны, але і бедны, першы за ўсіх...

Вазіў ужо іх два дні па хутарох, зьбіралі спажыўнасьць для сябе, прымушалі стаяць на дварэ па некульні гадзін, пакуль „яснавяльможныя“ дзевак лавілі... І сердаваў Мікола, зьнесьці ня мог гэткае несправядлівасьці.

— Во, яны!.. Во засалілі ў вачччу, во табе палякі, каб ім гэтае...

Прыехаў дамоў. Ня ўсьпеў распрэгчы каня, як увалілася к яму на двор яшчэ пяць чалавек жоўнежаў.

— Повруць назад коня!..

— Зачым?.. Куды?..

— Потшэбно!.. Звозіш нас у маёнтак пана Ваньковіча...

А ў маёнтку вечарынка шляхоцкая была і палякі на вечарынку сьпяшаліся, а да маёнтку вёрст з дзевяць, калі ня больш будзе.

Ускіпеў Мікола. ніколі-ж гэтага ня было, бальшавікі тыя так не рабілі, прасілі ўсё...

— Я цяпер толькі прыехаў!.. Два дні езьдзіў! Няхай хто другі едзе—староста няхай загадае...

— Э-э-э!? Дык ты гэтак?.. Бальшавікі, мусіць, навучылі, дык мы табе гэта вывядзем...

І бацнуў адзін з палякоў па мордзе Міколу, аж у вачччу іскры пасыпаліся. Але дзябёл Мікола і ўтрымаўся, толькі вочы агнём нейкім загарэліся... Хацеў сунуць у зубы, каб у прыгаршчы не сабраў, але..

— Не паеду!.. Я цяпер, гэты...

Другі з-заду прыкладам карабіну садзянуў у плечы, але так здорава, што Мікола аж на біліну грудзьмі апёрся...

Заскрыгітаў зубамі толькі моцна, кулакі сьцяў. Жонка на двор выбягла, дзеці... Тыя дык у плач.

— Жонка, торбу давай, а то ня еў... Галодзен як сабака...

Сказаў і больш ні слова. Падала жонка торбачку з харчамі. Паехаў, павёз Мікола за блізкі сьвет жоўнежаў на вечарынку, а яны, сволачы, глуміліся над ім целую дарогу.

Што думаў Мікола дарогаю—невядома, бо маўчаў, як вады ў рот набраўшы. Але, як дамоў прыехаў, цэлай плоймай лаянкі бруднай пасыпаўся:..

— Стой, рассукіны сыны! Гэтак ня будзе! Ці-ж гэта жыцьцё, каб на вечарынку вазіць... Тры дні. Зьбілі яшчэ гэтак. Я ім яшчэ гэты...

Трэба было ведаць, што ў Міколы слова „гэты“, якое заўсёды астанаўлівалася на недаказанай думцы, яно шмат значыла.

Пэўне Мікола меў ужо вялікую і нясутрыманую помсту. Ды не адзін Мікола, а ўсё наогул сялянства стагнала ад зьдзекаў, глуму над чалавекам панскай навалы. А неўзабаве рабункі пачаліся.

Кожны дзень ня ў тым, так у другім канцы галасілі бабы, дзеўкі. Мужчыны—тыя зубамі толькі скрыгіталі, да кулакі камячылі.

Дзіка й жудасна.

І на душы ў Анелі агіда расла да гэтых напоўлюдзей, зьвяроў. Рэдка пачала выходзіць на вуліцу.

— Калі незачым! Пятруся няма, а на палякаў глядзець не магу. Я іх ненавіджу!..

А яшчэ горш за тое, што цераз іх Пятрусь ад яе адарваўся. Як толькі магла ня любіць душа, сэрца, усё пачуцьце чалавека-крывапіўцу—так адносілася Анеля да паноў.

Але ня так вышла.

Неяк ненарокам кінулася яна ў вочы аднаму жандару, які быў у гміне і часта ў вёску іх наведваўся. І ці то спалюбіў, але дзе там спалюбіў, калі ў яго на думцы ніколі не магло быць, каб панскі род—мужычку... Вот зажадалася каршуну беламу паглуміцца над дзяўчынай простай! У нядзелю заехаў жандар к бацьком Анелі. Вусы натапырыў, маслам вышмальцаваў, валасы гэтак сама, шэрымі кацінымі вачыма-п‘яўкамі ўпіваецца ў кожнага; ад чаго ў Анелькі аж сэрца халадзее.

— Вобыск у вас трэба зрабіць!

Пагардна пакручваючыся на выважсаваных крывых ботах пішчэў жандар. На вуснах грала ўсьмешка здаволеная.

— Зброя павінна быць у вас... Заява ёсьць... Самлела спужаным поглядам абводзіў усіх бацька Анелькі, паглядаў на бліскучую жандарскую шаблю і мусіць дакладна ня ведаў, чаго хоча ад яго гэты гадзюка-чалавек...

І рыўся ўсюды ён, хоць і ведаў, што нічога ня знойдзе, бо і заявы ніколі ніхто не падаваў...

А ў Анелі сэрца рвалася ад злосьці, абіды і жалю нясутрыманага.

— Пятруська... любенькі, даражэнькі!.. Каб ты ведаў гэта... Каб ты бачыў, як зьдзекуюцца тут з нас?!

Маланкай неслася ў галаве Анелькі. А потым, на двор вышла—уцярпець ня можна аніяк...

Кінуў тады пароцца і жандар, вочкамі гадзючымі забегаў па хаце, шукаючы Анелі...

Маці частаваць пачала.

— Чорт яго бяры, абы ціха было!.. неслася ў яе думках.

А потым і нанач астаўся. Прыставаць пачаў да Анелі, ад жартаў дурных пачаў ужо залазіць глыбей. Бацькі тыя толькі ўздыхалі ды маўчалі. Што-ж рабіць?—Іх воля, права...

Анелька плакаць ужо прабавала, а потым рашыла:

— Чорт, чаго мне сьлініць?.. Што я языка ці рук ня маю?..

І адрэзала яму катэгорычна.

Што дальш, то часьцей пачаў заяжджаць да Анелькі Вацлаў-жандар. Глуміцца ўжо пачаў над сумленьнем дзявочым, над яе хараством...

— Годзе!..

Раз сказала рашуча Анелька і вочкі-васількі бліснулі агнём іншым. Я Пятрусю верная і больш нікому! І вылаяла, збэсьціла ўвесь гонар паляцкі, пагарду жандарскую нагою растаптала, усіх іх—паноў з гразёю зьмяшала, бо і чорт яго вытрымае! Надта ўжо ў сэрцы накіпела.

Тады, вылупіўшы свае вочы, асалапеўшы з расчыненым, як пастка, ротам, слухаў яе жандар. Веры, мусіць, не даваў, што гэтак беларуская, мужычая дзяўчына можа збэсьціць яго... костку белую, кроў ружовую...

— Почэкай-жа!.. То бэндзеш паментаць большэвічка!... Пся крэў!

Загарэлася жарам Анелька, але нічога не сказала; толькі грудзі пульхныя яе ўздрыгнулі, ды ўся затрымцела, а ў сэрцы помста гартавалася...

IV.

Загратаваныя вокны, вузка-даўгімі чорнымі нішамі сумна пазіраюць з грамілы камяніцы. Яна абведзена сьцяной мураванай, дротам калючым ублытана.

Аднастайна крокамі мераюць палякі вуліцу перад гэтым астрогам. Жудасна й нудна.

Час-ад-часу ў вокны ўсунецца твар, як крэйда зьбялелы, паглядзіць і расплывецца дзесьці ў цемені камары. Гэтым яшчэ нічога, што на верхнім паверху сядзяць, хоць сонца калі ўбачаць, сьвежае паветра зьмешанае з ванючым пахам гарадзкіх палёў уліваецца ў вокны. Тут добра.

Але скляпеньні...

Цямната з расьцярушаным удушшам, сырыя ліпкія сьцены, нямая глухата і жудасьць нейкая, страх невядомага—вось што пануе тут... І так, як сягоньня, так і заўтра, заўтра як учора.

Той, хто хаця раз ужо быў—той напэўне, згодзіцца лепш памерці, чымсь другі раз папасьці ў паляцкія скляпеньні...

Мала гэтага.

Катаваньне бізунамі, шомпалам, засаджваньне пад ногці голкі, зашчэм пальцаў у дзьверы, сьцісканьне іх паміж патронаў, біцьце калючым дротам па голым целе...

Ды хто гэтага ня ведае з гасьцей скляпеньня?.. Перанесьці ня можна. А Анелька ўжо шмат чаго перанесла!

У адно з такіх скляпеньняў кінулі Анельку. Ужо два тыдні таму назад, а Анельцы здаліся гэтыя два тыдні—двумя гадамі. Спачатку сполах браў, жудасьцю працінала, плакала доўга... А потым у цямноце здавацца пачало: то краскі розныя, то сонца залатое... А то Пятрусь, як жывы стаіць перад ёю і маніць—дражніць постацьцю чырвонаармейскаю, здароўем, хараством сваім...

— Пятруська... любачка!..

Крыкне на ўсё скляпеньне Анелька і рынецца з распасьцертымі рукамі ў куток. А там ціш і цемень.



Беларускія тыпы. Селянін і сялянка.

Дык упрэцца тады ў куток, сядзіць і калоціцца. Мокрыя, марозьлівыя сьцены ліпнуць к плячам.

І думкі тады снуюцца, надаедлівыя. Устае ў ваччу мінулае...

...Прыехалі жандары, арыштавалі яе, кніжку бальшавіцкую, што Пятрусь у яе аставіў, забралі. Вочы—шыльлем праколваюць. І тады яшчэ гэты брудны, ненавісьць Вацлаў падышоў да яе, абняў і ціха, на вуха:

— Ну цо-ж, Анелька?... Бэндзешь мене кохаць?.. Кеды так, то вшистко зробімы..

І рванула, на глум такі, злосьць дажджом запырскала і ня помніць добра цяпер, як з усёй сілы хляснула жандару па мордзе. Кроўю ён умыўся. Бацькі спалохаліся.

Адскочыўся, далоньню ўцёр кроў з носа, ды раўнуў на ўсю хату:

— Комуністка!.. Холера!..

І ўпіўся балюча, жандарскі бізун ў нежна-крамянае цела Анелькі. Крыкнула Анелька, вочкі сьлязьмі наліліся, зубкамі вусны закусіла... Сьцярпела.

Усю дарогу жандары насьмяхаліся над ёю. Прыставалі. А тут...

...Бізун, зашчэм пальцаў у дзьверы, чатыры разы кроў з носа спусьцілі...

— Ах!..

Устрасянецца і адкіне прыкрыя думкі-успаміны. І каб замяніць чымсі прыгожым радаснашчасьлівым, дык гэта—Пятрусь. Аб ім адным і запоўнена ўсё жыцьцё яе. Спачатку маўчала, думала толькі, а потым гаварыць, сама з сабой, пачала, нібы з Пятрусём гамоніць. Весялей так.

— Анелька, любая!... Нацярпелася ты зьдзекаў панскіх?!.

— Родненькі мой, Пятрусёк, шчасьце маё, я ўжо адпакутвала даволі, колькі нацярпелася зьнявагі без цябе...

— Анелька, дарагая!...

І гамонячы так сама з собою, яна, лежачы на падлозе, тулілася к пуку саломы.

А цераз тыдзень Анелю ўзноў дапрашвалі.

— Комуністка?...

Даваў пытаньні таўсты, з цялячым выглядам старшы з жандармэры. Каля яго побач сядзеў і Вацлаў. Як убачыла яго Анелька, дык аж страпянулася—гэткая прыкрая сустрэча!

— Комуністка, пытаю?...

— ?!

— А вот кніжка, што знашлі ў цябе, чыя?..

Вацлаў ухмыльнуўся і плюнуўшы неўзаметку на далонь, пацягнуў па сваіх валасох, адчаго наперадзе „заліз карові“ зрабіў у той час, як ззаду стаялі ўсе валасы, як шчаціньне, на хібу, у надворнага.

— Мая!..

— А дзе яе брала?...

— Бальшавікі, як праходзілі, дык бацьку курыць далі...

— Угмм!..

І шмат аб чым пыталі яе, але больш усё адмаўчывала. Прыкрым здавалася ёй, гаварыць з зьвярмі-людзьмі. Яшчэ папакутвала Анелька, а потым нечакана выпусьцілі. Як вышла на волю, ня ведала, што рабіць: ці то радавацца сонцу залатому, што так шчодра рассыпае свае цёплыя коскі і так прыёмна цалуе-песьціць твар яе зьбялелы, худы, ці кінуцца самой к кожнаму і ў абнімках цалаваць, цешучыся воляю...

У Анелькі на сэрцы было і тое і гэта. І вось на вуліцы горада ёй стрэўся паручнік, і замест таго, каб кіннуцца к яму на шыю, яна абарвалася, стала, затрэслася...

Ненавісьць, варожасьць к гэтаму чалавеку, прадстаўніку панскай улады тут на Беларусі, адразу полымем хліпнула ў душы Анелькі. І замест пацаланкаў, яна пастаяла, сьціснула кулакі, гнеўна бліснула вочкамі, і пашла...

Паручнік гэтак сама кінуў на яе зьдзіўлена-насьмешлівы пагляд і не зважаючы ні на кога пашыбаў далей....

А ў Анелькі ня толькі к яму аднаму варожасьць і помста радзілася ў глыбіні душы, а к усім ім, паном... Адным словам, забушавала і абхапіла ўсю істоту яе сьвядомая клясавая варожасьць.

(Працяг будзе).

**М. Нікановіч.**

в. Клянік,
Смалявіцкага раёну.



Гурток фізкультуры.—Займаемся спортам!



# ЛЕНІНСКАЯ КОМСАМОЛІЯ.

## Да зьезду КСМ Заходняй Беларусі.

У той час, калі ў Польшы распачалася новая хваля рэакцыі і дзяржаўнага тэрору процiў комуністычнай партыі і комсамолу, у той час, калі над шэрагам пролетарскіх байцоў вісяць новыя прыгаворы сьмерці, а ў турмах ідзе сярэдневяковае катаваньне над сотнямі ахвяр польскай ахранкі, у гэты час бадзёрная, поўная рэволюцыйнага энтузыязму моладзь Заходняй Беларусі сабралася, каб падлічыць свае сілы, каб намеціць плян барацьбы за вызваленьне працоўных і бацькаўшчыны.

Ня гледзячы на тое, што Заходняя Беларусь знаходзіцца фактычна на палажэньні ваеннага стану, ня гледзячы на шырока раскінутую сетку шпігоў-ахраньнікаў і соцень, а то і тысяч паліцыянтаў, якія сьцерагуць ад „крамолы“ беларускую вёску, комсамол Заходняй Беларусі правёў колёсальную працу. У сваіх шэрагах ён аб'яднаў тысячы маладых, сьмелых, гатовых да барацьбы юнакоў. Пры нявыразна цяжкіх умовах падполься ён праводзіў сярод іх політасьветную і організацыйную працу.

І гэтыя тысячы маладых барацьбітоў ідуць па шляху ленінізму, ідуць пад чырвоным штандарам Комуністычнага Інтэрнацыяналу, бо яны ведаюць, што толькі гэты шлях прывядзе да канчатковай пабеды.

У горне барацьбы загартоўваюцца новыя кадры байцоў, гэтыя кадры з кожным днём, з кожнай гадзінай павялічваюцца. І мы добра ведаем, што за організаваным комсамолам стаіць уся пролетарская і сялянская моладзь Заходняй Беларусі.

Аднаго мы пажадаем маладым барацьбітом Заходняй Беларусі: загарнуць як найболей у свае шэрагі пролетарска-сялянскай моладзі, загартаваць яе ленінскім бальшавіцкім гартам, і тады, можна сьмела сказаць, будучына за вамі!

Цяжкі, крывавы ваш шлях, яшчэ многа найлепшых, дастойных з вашых шэрагаў зложыць галовы на гэтым шляху, але толькі ён адзін, толькі шлях барацьбы вядзе да вызваленьня.

**А. Сянкевіч.**

## Ленінскаму Комуністычнаму Саюзу Моладзі Беларускае Соцыялістычнае Савецкае Рэспублікі.

Ад імя тысячы комсамольцаў, ад імя ўсяе рабоча-сялянскае моладзі Заходняе Беларусі ІІ-гі зьезд КСМ Заходняе Беларусі пасылае гарачае комуністычнае прывітаньне.

Пры надзвычайна цяжкіх умовах, у абставінах узросту рэакцыі, узрастаючых рэпрэсій, у час, калі соткі нашых братоў сядзяць у астрогах, калі ва ўсім краі пануе поліцэйскі бізун і дух ахранкі— зышоўся наш ІІ-гі зьезд.

Гэты зьезд зьяўляецца ў жыцьці нашага КСМ гістарычным зьездам. Ён зьяўляецца першым, аб'яднаўшым сабою значна ўзросшыя, узмоцненыя організацыі комсамолу. Гэты зьезд мае магчымасьць зрабіць вялікія падагуленьні нашае рэволюцыйнае барацьбы з буржуазіяй, сабраць вялікую практыку нашае рэволюцыйнае работы ў глыбокім падпольлі. Сваім асабовым складам зьезд пацьвярджае той факт, што наш комсамол за апошні год разгарнуў вялічэзную працу на вёсцы і аб'яднаў у сваіх радох найлепшыя элемэнты сялянскае моладзі. Дэлегатамі зьезду напалавіну зьяўляюцца вясковыя хлопцы. Нашы сілы вырасьлі, уплыў на рабоча-сялянскую моладзь павялічыўся—аб гэтым сьмела заяўляе зьезд вам, дарагія таварышы, комсамольцы Савецкае Беларусі.

ІІ-гі зьезд намеціў шляхі далейшага разьвіцьця Саюзу. Ён распрацаваў конкрэтныя баявыя рэволюцыйная задачы, якія стаяць зараз перад нашым КСМ аб падрыхтоўцы рэволюцыі.

ІІ-гі зьезд прашоў з поўным адзінствам і ў духу вернасьці комуністычнай партыі і ленінізму.

ІІ-гі зьезд у сваёй працы скарыстаў тую найба-

гатшую практыку, якую мае Расійская Компартыя і КСМ. Пад знакам бальшавізацыі нашых радоў будзем будаваць і ўзмацняць наш Саюз, будзем рыхтаваць і ўсю працоўную моладзь да рэволюцыі.

КСМ Заходняе Беларусі бачыць прыклад сваіх закардонных таварышоў. Існуючая зараз Савецкая Беларусь зьяўляецца найлепшым сьцягам у нашым змаганьні.

Зьезд заяўляе, што наш КСМ пакладзе ўсе сілы, каб як мага найхутчэй прыблізіць час аб'яднаньня працоўных Заходняе Беларусі з БССР.

Ніщто і ніхто ня спыніць нас у барацьбе за Савецкую ўладу, за комунізм.

Наш КСМ быў, ёсьць і застанецца баявым, беззаветна аддадзеным справе рэволюцыйнага змаганьня, не шкадуючы ні сілы, ні жыцьця, каб дасягнуць перамогі.

**Прывітаньне КСМ Беларускае Социялістычнае Савецкае Рэспублікі!**

**Няхай жыве рэволюцыя! Няхай жыве БССР!**

**2-гі Зьезд КСМ Заходняй Беларусі.**

---

# Як мы жывём і працуем.

*(Ліст з Заходняй Беларусі).*

Ні вялікая патрэба і беспрацоўе ў мясцох, ні голад і безьзямельле ў вёсках, ні катаваньні, арышты і бязьлітасьныя перасьледваньні поліцыі скрозь і ўсюды—ніщто ня можа зламаць, ці хаця-б затрымаць узрост і працу Заходне-Беларускага Комсамолу. На злосьць і бясьсільнае шаленства польскай яснапанскай улады і на радасьць КІМ'у мы магутна расьцем і мацнеем, усё шырэй і глыбей абхопліваем гушчы сялянскай і працоўнай моладзі, пушчаем усё новыя расткі—ячэйкі ў новыя фабрыкі, майстэрні, вёскі.

### Нашы прыяцелі.

Але мы ня толькі здабываем новых сяброў, ня толькі організоўваем новыя ячэйкі і раёны, мы заваёўваем сабе ўсё большую спагаду і каханьне працоўнага люду. І тое, што мы адчуваем, што мы—комсамольцы не адзінотны, што ў нас, акрамя страшнага ворага—поліцыі, ёсьць шмат прыяцеляў—у вёсках усё пагалоўна жыхарства, а ў мясцох—шырокія слаі працоўных—гэта прыдае нам нязьмерную моц, павялічвае нашу адвагу і гарэзасьць.

І каханьне—вось гэта не бясплоднае. Неразлучна з гэтым каханьнем і спагадай да нас ідзе рэальная дапамога—падтрыманьне нашых прыяцеляў працоўных і сялян, ня гледзячы на тое, што яны вельмі добра ведаюць і кожны дзень переконваюцца ў гэтым, як дзякуе ўлада за гэта каханьне да нас.

Так, напрыклад, у Вільні, пасьля апошняга 1 мая, калі організацыя наша была зусім зруйнавана, калі акрамя комсамольцаў было арыштавана каля 300 асоб, калі па месцу і ў дзень, і ў ночы маршавалі ўзброеныя атрады поліцыі, калі кроку нельга было ступіць, каб не павесьці за сабой шпега—адны толькі працоўныя профсаюзу шаўцоў у першыя-ж два дні пасьля арыштаў, па сваёй ініцыятыве сабралі каля 100 злотых на заарыштаваных комсамольцаў. А праўленьне саюзу друкароў у тэрміновым парадку абклала спэцыяльным падаткам у карысьць заключаных комсамольцаў.

А колькі было адзіночных выпадкаў, калі ў часе арыштаў і правалаў беспартыйныя працоўныя і сяляне самі прапаноўваюць нам свае памяшканьні для начлегаў і пасяджэньняў, самі вартуюць на вуліцы, ахоўваюць нас ад поліцыі.

### Нашы ворагі.

Уласна кажучы, самым пагрозным і бязьлітасным нашым ворагам зьяўляецца дэфэнзыва (ахранка). Вораг гэты такі шматвокі, шматвухі, шматногі, шматрукі, што вельмі часта перашкаджае нам працаваць.

У барацьбе з намі дэфэнзыва патрачвае вялікі лік грошай, выкарыстоўвае соткі людзей (калі іх можна назваць людзьмі), вымысьляе ўсё новыя сродкі. Мала ўжо ёй поліцыі, мала жандараў, мала шпегаў сакрэтных і відочных. Усё часьцей, па меры разьвіцьця нашае працы, дэфэнзыва прыбягае да новых, але пэўных сродкаў—провокацыя з кожным днём пашырае сыстэму даведцаў на фабрыках, у школах, у вёсках, у профсаюзах. Бываюць, напрыклад, такія выпадкі, якія ня маюць роўных сабе па бессаромнасьці і пахабе.

Прызываюць, напрыклад, у дэфэнзыву нашу комсамолку і кажуць ёй:—„Мы ведаем, што вы—комсамолка, але вы ня прыходзьце ў замяшаньне, гэта нават вельмі добра. Мы зусім ня зьбіраемся вас заарыштаваць, вы і будзьце комсамолкай, акуратна прысутнічайце на ўсіх пасяджэньнях, уважліва слухайце ўсё, аб чым там гавораць, будзьце актыўнай, старайцеся ўвайсьці ў комітэт, хадзіце нават расклейваць лістоўкі, але пры адной маленькай умове: кожны тыдзень вы будзеце прыходзіць да нас з дакладам аб усім, што асабліва важнае адбылося ў вас, у організацыі за гэты час: якія былі сходы і дзе, хто імі кіраваў, якія новыя сябры ўступілі ў організацыю, хто прымаў удзел у расклейцы і распаўсюджаньні лістовак, хто выдаваў гэтыя лістоўкі. Але ня думайце, што мы дарэмна патрабуем ад вас гэтае паслугі. Не, не. За гэту драбязу вы будзеце атрымоўваць ад 50 да 200 злотых з дакладу".

І калі хлопец ці дзяўчына, абураныя, адмаўляюцца ад выпаўненьня гэтай подлай ролі, начальнік дэфэнзывы доўга і з цярплівасьцю даказвае нерассуднасьць гэткага адказу.

— „Цяпер такое беспрацоўе, такая патрэба, а вы-ж—маладая дзяўчына, вам трэба прыстойна апранацца, акрамя гэтага, у вас ёсьць бацькі, якім вы павінны дапамагчы; а тут за драбязу вам даюць магчымасьць мець вялікія грошы і вы адмаўляецеся. Нерассудна гэта, ня гожа"...

Чым больш мы працуем, тым хутчэй зьмяншаюцца нават і тыя малыя легальныя магчымасьці, якія былі да гэтага часу. І нам прыходзіцца ўсё глыбей і глыбей хавацца ў падпольле.

У нас няма цяпер ужо ніякай магчымасьці зьбіраць колькі-небудзь значныя групы беспартыйнай моладзі. Па ўсёй Заходняй Беларусі вісіць войско

вае, чуць не асаднае палажэньне, забаронены нават дэпутацкія сходы і мітынгі, зачыняюць ня толькі нашы юнсэкцыі, але зачыняюць усе профсаюзы, наогул, і з гэтай прычыны нам прыходзіцца ўсё часьцей прыбягаць да нашых лістовак. А тут у нас простор.

Тут ужо ніякія забароны ня маюць сваёй моцы. Амаль кожны тыдзень мы зусім залепліваем месца ці вёску, усе сумежныя казармы, якія ідуць у розныя бакі вёскі.

І неапісана хораша на другі дзень, раніцой, калі ідзеш вуліцай, бачыць, як цэлая арава паліцыянтаў шалёна носіцца па вуліцах і, засучыўшы рукавы, змывае вадой, скрабе нажамі, замазвае моцна прыстаўшыя да сьцен белыя аркушы паперы.

А колькі апынулася іх па кішэнях ідучых раніцой на фабрыкі рабочых?

Па вёсках, дзе паліцыі шмат менш, як па мясцох, адозвы нашы часта вісяць па цэлых тыднях.

А выкарыстоўваць малебствы ў царквах і сынагогах для таго, каб з хораў ці з званьніцы белай хмарай пусьціць нашы лістоўкі—гэта стала звычайнай справай. Бедны тады поп ці рабін.

Дарэмна ён зьвяртаецца да веруючых не паддавацца шатанскім спакусам, таптаць іх нагамі і вярнуцца да малебства.

Уся царква прагавіта лавіць лістоўкі, адбірае адзін у другога, радасна групамі і паасобку чытаюць услух. І ня гледзячы на вялікі лік распаўсюджваемых намі лістовак, правалаў пры расклейцы і іншых шляхох распаўсюджваньня, у апошні час не прыкмячаецца.

Наспэцыялізаваліся хлопцы. Пад самым носам, тут-жа за сьпіной у дазорцы парадку ня толькі наклеюць лістоўку, але і чырвоны сьцяг павесяць.

Ды яшчэ як павесяць. Так што паліцыя падчас да поўдня ламала галаву, як яго дастаць адтуль.

Але вельмі хораша і свабодна адчуваем мы сябе на вёсцы. Там мы на вышыні свайго становішча. Высока рэволюцыйны настрой усяго беларускага сялянства, агульнае імкненьне і жаданьне паўстаньня, бесьперарыўная барацьба з уладай, якую там вядзе жыхарства, вялікая рэволюцыйная актыўнасьць вёскі і наш Комсамол прадстаўляюць больш магчымасьці для працы.

Запэўна, каб захаваць ад правалу нашу організацыю, мы і ў вёсцы робім свае пасяджэньні дзе-небудзь на гары, пад страхой, альбо ў лесе ці ў полі, і калі ў вёсцы нам прыходзіцца сустрэцца з паліцыяй, там мы, бязумоўна, часьцей, як у месцы выходзім з перамогай. Так, напрыклад, у гадавіну вайны, ня гледзячы на забарону паліцыі ў Берасьцейскай акрузе, у вёсках усё-ж такі былі з'організованы мітынгі.

Пад голым небам, пасярод вёскі. Чакалі прыходу паліцыі. Кругом была расстаўлена варта, было шмат узброеных. Але паліцыя ня прыходзіла, ня прышла і тады, калі ўся вёска з надзвычайным захапленьнем пела Інтэрнацыянал.

Адважныя ахоўцы панскага жонду адважыліся зьявіцца толькі на другі дзень. Арыштавалі солтыса (старшыню), некалькі хлапцоў і дзяўчат і жадалі павесьці іх у валасьць.

Выкарыстоўваючы падняты настрой і абурэньне ўсяго жыхарства, комсамольцы з'організавалі ўсю вёску і адбілі заарыштованых.

Але распаўсюджаньне літаратуры, вывешваньне сьцягаў і хаця і рэдкія мітынгі, гэта толькі тыя зьвязкі, якія злучаюць нас з масамі.

І гэта праца, якая патрабуе ў нас шмат энэргіі і хітрасьці, не зацямняе сабой той вялікай працы, якую вядзе беларускі комсамол сярод самой організацыі. Вялікай працы каштуе хутка аснованыя новыя ячэйкі ўцягваць у агульную сыстэму організацый, узгадоўваць іх і палітычна, і організацыйна, і, што вельмі важна, у духу консьпірацыі.

І трэба адзначыць, што ўсё-ж такі, ня гледзячы на ўсе перашкоды, мы з гэтым заданьнем спраўляемся.

Мацнейшы экономічны заняпад, застой у прамысловасьці, беспрацоўе перашкаджаюць Заходне-Беларускаму Комсамолу павялічваць лік фабрычных ячэек. Але саюз моцна стаіць на гэтым шляху і дзе толькі магчыма, нават у маленькіх мясцох, дзе толькі ёсьць фабрыкі—у нас ужо ёсьць фабрычныя ячэйкі.

Праца ў вёсках пачата прыблізна нядаўна, але ўжо за гэты кароткі тэрмін з'організована звыш 40 ячэек.

Зачыненьне профсаюзаў зьяўляецца сур'ёзнай перашкодай на шляху правядзеньня экономічнай працы. Але няўтомная энэргія комсамольцаў атрымлівае верх над гэтым, і Заходне-Беларускаму Комсамолу, акрамя абыдзеннай 8 гадзіннай працы за палепшаньне ўмоў жыцьця для моладзі, удалося правесьці нават 2 забастоўкі моладзі, дзе яна вышла з перамогай.

Такім чынам, у сваім глыбокім падпольлі, у маленькіх мясцох і глухіх вёсках Заходняй Беларусі і там, Комсамол, Комсамол, заўжды бадзёры і ня сумуючы, праз галовы польскай дэфэнзывы кідае кліч Комсамолу ўсяго сьвету.

Няхай жыве бясстрашны, заўжды бадзёры, скрозь і ўсюды адважны ўсясьветны Комсамол.

**Падпольнік.**



# Недахопы ў працы—на мушку.

**Хоць ня шмат, але сям-там маюць сабе месца такія выпадкі ў комсамольскай працы, якія наносяць абразу ўсёй Ленінскай Організацыі.**

**У Міжнародны Юнацкі дзень комсамольскія ячэйкі павінны падагульніць сваю працу і ўсім недахопам у ёй „забіць асінавы кол“.**

## Ужо праходзіць і лета, а мы...

*Дукора, Сьмілавіцкі р., Меншчына.*

Яшчэ ў красавіку м-цы адбыўся агульны сход дукорскай і саўхоскай ячэйкі. На гэтым сходзе вырашалі пытаньне, на якое зараз усе зьвяртаюць вялікую ўвагу, гэта аб фізкультуры.

Пагаварыўшы нямала, сход даручыў бюро гэту справу наладзіць, ці лепш кажучы, організаваць спорт-гурток.

Бяжыць час. Сонечныя праменьні бязупынна паляць бюро, а яно і не падумае аб выкананьні жаданьняў ячэйкі.

— Лета праходзіць, а мы аніразу і спортам не займаліся,—чутны такія комсамольскія гутаркі.

**Жарком.**

## Комсамольцы кідаюць сваю гаспадарку.

*Лошыцкая яч. ЛКСМБ Меншчына.*

Лошыцкая ячэйка організована ў гэтым годзе. Праз невялікі час у ячэйку запісалася 17 сяброў.

Але вось адна бяда. Як толькі пашлі чуткі, што будуць комсамольцаў пасылаць вучыцца, дык усе комсамольцы пачалі падаваць заявы.

Шмат з іх гавораць:

Чаго я дасяджуся дома. Трэба ехаць вучыцца.

Такія замыслы хлапцоў пагражаюць развалам ячэйкі з аднаго боку, і бацькаўскай гаспадаркі з другога.

Трэба, каб Райком зьвярнуў на гэта сваю ўвагу. **Заслаўскі.**

## Пара падумаць.

*В. Бор, Сьмілавіцкі р.*

Калі глянеш на вёску Бор і на другія вёскі, дык убачыш паміж імі вялікую розьніцу.

У Бары няма хаты-чытальні, а таксама ніякіх гурткоў.

Сяляне замест таго, каб пайсьці ў хату-чыт., што небудзь пачытаць, пачуць новае, шляюцца па вуліцы, распачынаюць бойкі і розныя іншыя „гульні“.

Усяму гэтаму навучаецца і моладзь.

Рудзенскай ячэйцы КПБ і ЛКСМБ пара падумаць аб суседняй сабе вёсцы Бор і дапамагчы ёй выкарабкацца з цемнаты.

**Чырвоны Дручок.**

## Як часта-густа комсамольцы „апрацоўваюць дзяўчат.“



...Апрацоўка пачынаецца.



...У працягу.



.. Умешваецца поп.




...Канец зразумелы бяз слоў.



# ЗА НОВУЮ ВЁСКУ.

## НЭП У ВЁСЦЫ.

(*Гутарка першая*).

**Нельга раўнаць кулацкае драпежніцтва з умацненьнем гаспадаркі працоўнага селяніна. Узмацненьне гаспадаркі адзначае рост вытворчасьці ў вёсцы. Затрымліваць прымусова яго ні ў якім выпадку ня трэба.**

За апошнія часы вельмі многа гаворыцца і пішацца пра кулакоў, серадрякоў і незаможнікаў у нашай вёсцы. І гэта зразумела чаму: гэтае пытаньне вельмі цікавіць сялянства, у вясковым жыцьці яно амаль што галоўнае. Часта-густа гэтае пытаньне каверкаецца, зьяўляецца блытаніна ў разуменьні, памылкі.

А між іншым блытаніну тут дапусьціць нельга. Трэба, каб кожны селянін ведаў хто ён: кулак, серадняк ці незаможнік? Трэба, каб мясцовая ўлада бліжэй, глыбей унікала ў справу пры аднясеньні таго ці іншага селяніна—да кулака, да незаможніка ці серадняка. Бо, калі цэлую грамаду сялян па абмылцы далучыць да кулакоў, то яны адпаведна гэтаму, губляюць свае выбарчыя правы, становяцца прадметам цкаваньня з боку мясцовай улады, гэта з аднаго боку, і з другога такая блытаніна і абмылкі аддаляюць ад Савецкае ўлады якраз найбольш старанных і перадавых гаспадароў, прымушаюць мысьліць і так, што пры Савецкай уладзе нельга і марыць пра пашырэньне і разьвіцьцё свае гаспадаркі.

— Вось усёроўна на 3-яй, альбо 4-ай карове паставяць мяжу, абвясьціўшы кулаком.

І на вялікі жаль памылак такіх (г. зн. такіх выпадкаў няправільнага падыходу да ацэнкі гаспадаркі) шмат.

Прычына ўсяму гэтаму месьціцца ў неразуменьні істоты НЭП'у, у неразуменьні істоты тых шляхоў, якія Савецкая ўлада абірае ў сваім руху да соцыялістычнай гаспадаркі.

Вядома, проста скокнуць з амаль што першабытнай гаспадаркі нашага селяніна да соцыялізму—нельга. Не дапаможа і прымусовае раўненьне ўсіх гаспадарак пад адну мерку. Процант моцных працоўных гаспадарак хай расьце, рух да таварнай гаспадаркі хай узмацняецца. І вось толькі тады Савецкая ўлада здолее зрабіць уплыў праз дзяржаўную прамысловасьць, гандаль, крэдыт, копэрацыю ў зьбіраньні сялянскіх гаспадарак да агульнага соцыялістычнага будаўніцтва, і, якраз гэтым зможа падрэзаць галіну пад кулацкім г. зн. драпежніцкім, рабаўнічым узбагачаньнем, якраз гэтым паменшыць панаваньне кулака над усёй вёскай.

### Каго мы павінны лічыць кулаком.

Да кулацтва падыходзяць з розных бакоў. Адны адмаўляюць сур'ёзны ўзрост кулацтва, другія б'юць трывогу пра вялікае расслаеньне вёскі, яе пролетарызацыі і ўзросьце кулака, трэція лічуць кожнае супроцьсавецкае зьявішча ў вёсцы, справаю кулака. Наогул, кулака з экономічнай катэгорыі замянілі ў політычную адзінку: дзе-што здарыцца—паскудзіць кулак. На глыбока засеўшай думцы савецкага апарату і значнага

ліку таварышоў, кулак зьяўляецца першай прычынай усялякіх дрэнных зьявішч у вёсцы.

Нашы правадыры шмат працавалі і працуюць, якім чынам адарваць ад кулацкага слою працоўную частку сялянства. Але перш чымсь гэта зрабіць, трэба разабрацца ў тым, што з сябе прадстаўляе кулацтва і якія прычыны яго ўзьнікнавеньня і ўзросту.

**Кулацтва—гэта слой, па сваёй экономічнай істоце варожы грамадзе. Кулацтва будуе свой дабрабыт на нядолі, на няшчасьці сваіх аднавяскоўцаў, кулацтва бы павук, распускае павуціну з тэй мэтай, каб з беднякоў, папаўшых у яе была высмактана апошняя кроў.**

Робячы з гэтага вывад прыходзім да таго, што моцнае працоўнае сялянства, ня гледзячы на тое, што яно быць можа і настроена супроць-савецкі контр-рэволюцыйнае, мае кулацкае ўхілы ня ёсьць кулацтва. Да яго павінен быць падход політычнага выхаваньня, апрацоўка ў прыхільніка да савецкага ладу, без перашкод экономічнаму ўзбагачэньню і культурнаму ўзросту.

З кулаком мы павінны змагацца безадносна да яго політычнага сьветапогляду, па тэй прычыне, бо дзейнасьць кулака па самай істоце варожая, няпрымірымая з савецкім ладам і вось чаму ён і пазбаўляецца ў нас грамадзянскіх правоў. Наша констытуцыя пазбаўляе часткі грамадзянскіх правоў шэраг савецкіх грамадзян, як гандляроў, папоў, рабінаў, жывучых на даходы з рэнты і г. д. Аднак яны не перасьледуюцца за іх профэсыйную дзейнасьць; іх па выключна політычных мотывах пазбаўляюць выбарчага права. Кулакі-ж у нас перасьледуюцца за забаронены выпадак дзейнасьці. Вось чаму зусім зразумелы выраз т. Леніна на пытаньне хто-ж зьяўляецца кулаком: **„Каб сказаць ці зьяўляецца гаспадарка кулацкай, неабходна ведаць яе гісторыю“.** Вось чаму пры адлічэньні таго ці іншага гаспадара да кулака павінен быць такі падыход: як нажывалася яго гаспадарка—кулацкім ці працоўным спосабам.

### Вывады.

Расслаеньне зьяўляецца вынікам экономічнага ўзросту вёскі. Прымусовая барацьба з кулацтвам, ды наогул з расслаеньнем вызначала-б—затармазіць узрост вытворчасьці ў вёсцы.

А ад упадку агульнай вытворчасьці незаможнікаў зусім ня было-б лепей, а горш.

Наша заданьне, каб процант моцных гаспадарак не зьмяншаўся, а павялічваўся, каб таварнасьць сялянскай гаспадаркі ўзрастала.

Пад'агульваючы вышэйшае трэба сказаць, што расслаеньне ў вёсцы, якое выклікана НЭП'ам не перашкаджае ўзросту колектыўнай гаспадаркі, а, наадварот, павялічвае вытворчасьць і таварнасьць у сельскай гаспадарцы—а значыць падрыхтоўвае элемэнты да колектывізацыі, і прачышчае глебу да савецкай вёскі.

**Ад рэдакцыі:** Друкуючы гэты артыкул, рэдакцыя запрашае вясковых комсамольцаў—выказацца па закранутым пытаньні, пацьвярджаючы свае допісы прыкладамі з вашай вёскі.

# Журавель.

**(Піонэрская песьня).**

Піонэрская сям'я
Расьпявае жураўля
(Прыпеў)
Жура-жура журавель,
Журавелька малады.

Калі ён у СССР –
Значыць хлопец—піонэр.
(Прыпеў)

Яшчэ ўчора ты і я
Ня вылазілі з гнільля.
(Прыпеў)

Калі ў вёсцы няма драк,
Біў па вуліцы сабак.
(Прыпеў)

Цэлы дзень бутэлні біў
Абарваным я хадзіў.
(Прыпеў)

Калі хочаш, то павер,
Новы сьвет у нас цяпер.
(Прыпеў)

Чырвань-гальштук, як я рад,
Што запісаны ў атрад.
(Прыпеў)

Марш'рую і пяю
Песьню звонкую сваю.
(Прыпеў)

Я адзін з тых юнакоў
Йці на ворага гатоў.
(Прыпеў)

Міліёны дзетвары
Комуністым мы сябры.
(Прыпеў)
Гэй, рабочыя краін,
Гэй, да нас вы, як адзін!
(Прыпеў)

Мне рабочы сябар-брат
Я ў агонь за брата рад.
(Прыпеў)

Кроў гарачая б'е час,
Ўсе мы ўнуні Ільліча.
(Прыпеў)

Піонэр наш—маладзец
Жураўлю прышоў канец.
(Прыпеў)



# ЗА ГОД.

**Матарова, Сьмілавіцкі раён.**

Год таму назад у нас організавалася ячэйка ЛКСМБ. Да гэтага часу ў вёсцы ня было ніякай організацыі. Аб сталай культурна-асьветнай працы гаварыць было нельга. Калі ставіўся які-небудзь спэктакль, то гэта рабілася ўрыўкамі студэнтамі, якія прыбывалі ў водпуск. Газэты, літаратура, чытальня—ня былі і ў паміне.

Але вось у жніўні 1924 г. перадавая вясковая моладзь уступае ў Комсамол. Пачынаецца організацыйная праца. Перш за ўсё наладжваецца некалькі спэтакляў, праводзіцца „Дзень ураджаю" і ўтвараецца вусная газэта. У сяродку самой ячэйкі вядзецца найлепшая адшліфоўка новых комсамольцаў. Каб у далейшым мець магчымасьць весьці працу, трэба мець свой пакой, дзе-б можна было адчыніць хату-чыт.

Для гэтага ячэйка, у ліку 20 асоб, ідзе працаваць на два дні ў будуючайся школе. Сяляне адпушчаюць нам адзін пакой і матэрыял на сцэну. Цяпер трэба нажыць самае галоўнае—літаратуру. Прышлося зьбіраць з комсамольца па 20 к. на выпіску газэт. Так цягнулася паўзімы. Нарэшце былі пастаўлены два платных спэктаклі, на якіх выручылі 30 руб. Гэтага на першых часох хапіла, абсталяваць хату-чыт.

Работа аджывае. Організоўваюцца політычны і с-г. гурткі і рэгулярна працуюць па разу ў тыдзень. У гурткі шмат уцягваецца беспартыйных.

У далейшым, каб канчаткова матэрыяльна ўзмацніцца ставім яшчэ некалькі платных спэктакляў і на „ять" абсталёўваемся: набываем шкап, лаўкі лямпу, грым, краскі для насьценнай газэты і г. д. Выпісваем: „Звезду", „Бел. вёска" „Чырвоная зьмена", „Малады араты", „Чырвонаармейская праўда".

Цяпер у сувязі з летнім пэрыодам праца крыху заняпала. 28 чэрвеня адбыўся выпуск політ. гуртка, с-г. перастаў працаваць. У час адпачынку наладжваюцца спортыўныя заняткі. Існуе таксама, ячэйка Мопр'у і вайсковы куток.

За год мы вырасьлі ўглыб і моцна сталі на ногі. Спадзяемся, што к наступнаму году мы справімся і з гэтай апошняй задачай. **М. К.**

# Займаемся спортам

**Капыль, Случчына.**

Жаданьне організаваць спортыўны гурток пры нашай ячэйцы ЛКСМ было ўжо даўно. Моладзь імкнулася да спорту, як галодны да хлеба.

Бачачы такія імкненьні моладзі і ў асаблівасьці комсамольцаў—гурток быў утвораны. Але спачатку ён не апраўдаў ускладзеныя на яго надзеі.



Беларускія краявіды. Вёска.

Прычына хавалася ў тым, што ня было спортыўнай пляцоўкі і патрэбных прылад.

Гурток быў „памёр".

І толькі ў ліпні м-цы г. г. ён абудзіўся, і жаданьні моладзі збыліся.

Наша мясцовая ўлада зьвярнула вялікую ўвагу на аздараўленьне моладзі і адпусьціла некаторы лік грошай на абсталяваньне спортыўнай пляцоўкі.

Ужо маецца турнік, бар'ер і інш.

Утвораны дзьве спортыўных групы: жаночая і мужчынская.

Усе комсамольцы, шмат профсаюзьнікаў і беспартыйнай моладзі па аўторках і пятніцах ажыцьцяўляюць лёзунг:

— У здаровым целе—здаровы дух.

Хутка павінен прыехаць са Случку інструктар па спорту, а покуль што заняткі праводзім сваімі сіламі.

**Я. Ш.**

# І старыя комсамоляцца.

**Блускі Сельсавет, Меншчына.**

Яшчэ год таму назад нашы сяляне ня ведалі, што такое Компартыя, што такое Комсамол.

Але бяжыць час—і адмірае старое.

Зараз у нас маюцца 2 яч. ЛКСМБ. Спачатку бацькі ня пускалі сваіх дзяцей у клюб, у чытальню. Забараня́лі гуляць з комсамольцамі, але цяпер і старыя „памякчэлі". Шмат хто ўжо з іх ходзіць у клюб, у чытальню.

Газэты гурткі выпісваюць на свой кошт. Кніжкі бярэм у комсамольскай бібліотэцы саўхозу „Молат".

Селькор **Жлобіч.**

# Васька батрак.

*(Допіс вясковага комсамольца).*

Васька—батрак. Васька—комсамолец. Ваську 18 год. Другі год служыць ён у кулака вёскі Вялікія Валочкі, Ярмола Ліпніцкага.

Пераважны лік насельніцтва гэтай вёскі—бедната і толькі некалькі двароў абзываліся кулацкімі. З ліку гэтых двароў некаторыя былі далёка ня кулацкімі, бо яны самі па сябе працавалі дзень і ноч, дзякуючы чаму мелі хлеба ўдоваль.

За тое Ярмол быў сапраўным кулаком. Сам ён з сваёю тоўстаю жонкаю і дзяцьмі нічога не рабіў, цэлае лета туляўся ў халадку.

А гаспадарка яго—як ні ў аднаго гаспадара Вялікіх Валочак. Хата яго—аршын на трыццаць даўжынёю. Вакон не разуўшыся не палічыш. За хатаю вялізарны сад. Двор прасторны. Дзесяць кароў, трое старых коняй і адзін малады (для гаспадарскіх выездаў).

Такіх, як Ярмол, было яшчэ гаспадароў пяць. Усе яны паміж сабою вельмі добра хаўрусавалі і гэтым трымалі вёску ў сваіх кулацкіх кіпцюрох.

Выбары сельскіх комітэтаў праходзілі па дырэктывах кулацкай „комфракцыі“. Ліпніцкі блізка год займае пасаду старшыні комітэту ўзаемадапамогі, іншыя яго сябры працуюць у розных саветах: пачынаючы ад падпольна-контр-рэволюцыйнага і канчаючы школьным...

Беглі дзянькі, як у месячную з вялікім ветрам ноч, плылі па небе маленькія хмурынкі, кулацкая ўлада ўсё больш узмацнялася. Кожную весну Ярмол Ліпніцкі даваў бедным сялянам і батракам пазыку з свайго „запаснага фонду“ — голад ня цётка,—кажа бедната і ідзе да Ярмола.

Нельга сказаць. Ярмол без усялякіх рэзолюцый „пазычаў“ пуды галодным, але за тое ў восень зьдзіраў з сваіх задоўжнікаў у тры столкі...

Усю працу на Ярмолавай гаспадарцы выконвалі Васька і яшчэ дзьве маладыя дзяўчынкі-наймiткі.

Васька добра бачыў і разумеў „грамадзкую працу“ свайго гаспадара, але мяшаца ў яе не асьмельваўся. Ён адчуваў сябе не падрыхтованым да барацьбы з кулаччом, якое сядзела ўва ўсіх комітэтах вёскі.

Але ўсё-ж такі ён быў перакананы ў тым, што акомсамоліць Вялікія Валочкі яму ўдасца.

Пачаў ён працу з выпіскі, на крывавыя свае капейкі, газэты „Батрак“. З захапленьнем чытаў сам і чытаў сваім таварышом па працы—дзяўчатам-наймiткам. Спачатку ня слухалі яны Васькіну чытку, але хутка перамяніліся і дужа цікавіліся. Васькіна праца не прападала дарма. Адна з наймiтак—Марыська, нават ужо ходзіць з Васькам у мястэчка на сход комсамольскай ячэйкі.

Шмат думаў Васька і аб сялянах вёскі, якія не карысталіся кастрычнікавымі заваёвамі. Чытаў па некалькі раз і ім ён свой „Батрак“, часьцяком гутарыў аб Ярмолавым „фондзе“ і яшчэ шмат аб чым.

У самы разгар кулацкага панаваньня прыехаў у водпуск чырвонаармеец Мікіта, сын беднага селяніна Вялікіх Валочак.

Васька хутка даведаўся аб гэтым і пазнаёміўся з Мікітам. Чырвонаармеец Мікіта палюбіў батрака Ваську і ўдваіх пачалі працаваць. Перш за ўсё яны дагаварыліся з раёнам аб складзе комітэтаў гэтай вёскі, і правялі сьпешныя перавыбары. Сяляне цяпер галасавалі не па прымусу кулакоў, а па сваёй волі. Ваську батрака выбралі ў комітэт сялянскае ўзаемадапамогі, у якасьці старшыні.

Кулак Ярмол ня верыў сваім вушам і вачом, што ён больш не старшыня, што „фонду“ яго канец. Зрабіўся, як зьвер. Ваську з хаты выгнаць надумаўся. Але гэтаму ня збыцца. На дапамогу прышоў саюз і прымусіў Ліпніцкага трымаць Ваську, павялічыўшы апошнему плату ўдвайне.

А Васька з Мікітам яшчэ з большым пад'ёмам, яшчэ з большаю энэргіяй аддаваліся распачатай працы. Надумаліся яны Вялікія Валочкі разьбіць на пасёлкі. У нядзелю Мікіта зьезьдзіў у раён, прывёз агронома і загадчыка па зямельных справах. Склікалі сход. Сяляне, акрамя кулакоў, згадзіліся і прасілі аб найхутчэйшай перабудове іх градак-загончыкаў.

Як на злосьць кулаччу, праз тыдзень акруговай зямельнай комісіяй быў зацьверджан проэкт зямлябудаўніцтва і ў вёску Вялікія Валочкі прыехалі 2 каморнікі.

Кулакоў брала трасца, а батракі былі рады, што абрэжуць заможных і хоць па крысе дадуць ім зямлі.

Мікіта паехаў у сваю часьць. Васька батрак хадзіў з каморнікам па Ярмолавым полі і аглядаў сабе месца для пасёлку.

**З. Жораўскі.**

# Выцягваем вёску з цемры

**в. Раўнапольле, Сьмілавіцкі р., Меншчына.**

— Досыць жыць у цемры! Будуйма новае жыцьцё! Хадзем па шляху Ільліча!—так сказала наша вясковая моладзь і ўзялася за распаўсюджваньне асьветы ў сваёй вёсцы.

Найгарачэй за гэту справу ўзяліся комсамольцы і настаўнік. Яны задумалі пабудаваць хату-чытальню. Іншая моладзь адгукнулася на гэта дадатна, і, быўшы вясковы „камазын“, пачалі будаваць на хату-чытальню. Перасыпалі, накрылі і зрабілі ўлазіны.

Абяцаў шэф (Менск, Аўтагуж) дапамагчы нам у справе абсталяваньня яе літаратураю.

Нядаўна організавалі ячэйку „Прэч Няпісьменнасьць“, у якую запісалася 40 сяброў.

Часта наладжваем спэктаклі, як у сваім клюбе, так і ў чужых.

Вось, як мы выцягваем сваю вёску з цемры.

**Зэшка.**



# СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## Гутаркі агронома.

### Падворыўка жнеўніка.

Найбольш пільнай справай пасьля збору збожжа ёсьць падворыўка жнеўніка. Безадкладная падворыўка жнеўніка ёсьць адно з тых нямногіх гаспадарчых правіл, якія зьяўляюцца абавязковымі ўкожнай глебе і ў кожным становішчы.

Добры гаспадар павінен помніць аб тым, што як толькі поле ачышчаецца ад збожжа, трэба выяжджаць з плугам.

Чым раней зробім падворыўку жнеўніка, тым лепш, а ў некаторых выпадках трэба так сьпяшаць, што аруць паміж радамі зложанага ў дзесяткі збожжа.

Ёсьць шмат прычын, дзеля каторых безадкладная падворыўка зьяўляецца патрэбнай і вельмі пажаданай:

1) Пасьля збору раньняга збожжа, як напр., жыта, а часам і пшаніцы можам пасеяць на такой падворыўцы якую-небудзь расьліну, напр.: лубін, мешанкі з вікі ці турнэпс, першы на зялёнае ўгнаеньне, а турнэпс і мешанкі на корм жывёле, хоць гэтыя апошнія можна прыараць і на зялёнае ўгнаеньне.

2) Падворыўка жнеўніка вельмі дапамагае ў барацьбе з сарнякамі.

Дзеля гэтага падворваць жнеўнік магчыма няглыбока (на 4-5 цт.), каб толькі сам жнеўнік і паверхню зямлі падрэзаць і адвярнуць. Найлепш дзеля гэтага ўжываць асобных трох ці чатырохлямешных плугоў, але калі іх няма, то можна і звычайнымі, хоць крыху будзе праца выканана менш дакладна.

Замест падворыўкі плугам можна сарваць жнеўнік і зварушыць зямлю драпаком, культыватарам або пружыноўкай, але толькі на сыпкіх, лёгкіх глебах.

Пружыноўкай ці культыватарам бaрануем у двох напрамках—наўкос і накрыж. У які-ж спосаб падворыўкай жнеўніка мы можам дапамагчы да ачысткі глебы ад пустазельля?

Сарнякі бываюць розных гатункаў і адпаведна да гэтага ў розны спосаб мы павінны весьці з імі барацьбу.

### Барацьба з сьвірэпкай.

Большая частка сарнякоў, ня выпалатых ўвесну, дасьпяюць перад жнівам і высыпаюцца на паверхню зямлі, так, напр.: мак палявы, гуголь, а перад усім *сьвірэпка.* Калі жнеўнік застанецца ня ўзораны да восені, то насеньне гэтых сарнякоў ляжыць сярод яго на сухой ральлі і толькі невялікая частка іх паўсходзіць пасьля асеньніх дажджоў. Астаўшаяся насеньне сарнякоў прыворваецца пры наступнай ворцы больш ці меньш глыбока; сядзяць яны ў глебе праз зіму, а ў весну ўсходзяць і густа пакрываюць усё поле. Так бывае заўсёды, калі мы поле пад авёс ці ячмень пасьля жыта ці пшаніцы толькі раз увосень арэм без папярэдняй падворыўкі жнеўніка.

Зусім інакш будзе, калі мы жнеўнік падворым безадкладна пасьля жніва няглыбока ці хаця-б збаpануем культыватарам ці пружыноўкай.

Тады сьвірэпка, якая асыпалася, прыкрытая няглыбока зямлёю ўсходзіць амаль ня ўся; падворыўка праз некі час зазеляніцца, а пасьля дадзенай бараной ці яшчэ лепш глыбокім ворывам на зіму мы ўсе іх зьнішчым дашчэнту; а ў наступным ужо годзе яны нам шкодзіць ня будуць.

Нават, калі-б мы ня здолелі зямлі перааpаць другі раз, то зімовыя маразы значную частку іх вымаразяць, а пры вясеньняй апрацоўцы глебы мы іх зьнішчым дарэшты.

### Зьнішчэньне пырняку.

Зусім інакшая справа, калі нам трэба зьнішчыць *пырняк* і другіх падобных да яго сарнякоў, адрастаючых з карэньняў, як асот-уюнок і др. Пырнік заўсёды больш расьце на лёгкіх глебах, пескавых не асабліва сухіх, дрэнна выраблены, дзе ён разрастаецца, дае шмат падземных паросткаў, каторыя замяняюць паверхню ральлі ў дырван.

На ральлі, дзе шмат пырняку, нішто добра расьці ня будзе, а пырнік сьведчыць, што гаспадар дрэнна вядзе сваю гаспадарку.

Але калі добра за справу ўзяцца, то ня так ужо вельмі цяжка ад яго збавіцца.

Адным з спосабаў барацьбы з пырнікам у ральлі лёгкай глебай зьяўляецца таксама няглыбокая падворыўка жнеўніка. Тут пры ворыве мае значэньне шпаркая праца, каб пласт як найбольш паразрываць на невялікія кавалкі, каторыя барджэй прасохнуць. Пасьля двух-трох дзён добрай пагоды баронім звычайнымі баронамі, а пасьля пружыноўкамі ці драпакамі пырнік выцягваем з ральлі.

Калі мы заўважым пасьля такой падворыўкі і баранаваньня, што пырніку яшчэ засталося многа, то трэба ўвосень яшчэ раз даць няглыбокую падворыўку і ў сухую пагоду выбаранаваць яго дарэшты. Баранаваць трэба ня вельмі шпарка, каб пырніку не разрываць на дробныя кавалкі.

## Як трэба сеяць жыта.

Пры падрыхтоўцы глебы пад засеў жыта, а таксама і пры сяўбе ніколі ня трэба грунту вырабляць на парашок, дзеля таго, што ў разе дажджу на паверхні глебы можа ўтварыцца корка, якая будзе перашкаджаць усходу расьлін.

Асабліва трэба гэта мець на ўвазе на падзолах, якіх шмат ёсьць у нас на Беларусі, а таксама і на гліністых грунтох. Добра падрыхтованая глеба павінна быць у грудкаватым стане, ачышчаная ад пырніку і добра зраўнаваная баронамі.

## Якасьць насеньня.

Вартасьць насеньня залежыць *ад чыстаты* і *ад моцы прарастаньня*. Чыстату насеньня найлепей атрымаем пры дапамозе, спачатку, *арфы*, якая служыць дзеля ачысткі зярнят ад прымешак, як мякіна, салома, каласы, пясок і г. д. Сьледам за арфай ідзе вятранка (сартоўка), дзе сартаваньне насеньня робіцца паветрам, г. зн. па вазе зярнят, пры гэтым аддзяляюцца лёгкія зярняты і насеньне сарнякоў. Але ўсё-ж у збожжы засталіся круглыя зярняты розных вік, гуголя і др. сарнякоў, ад якіх можна збавіцца прапускаючы насеньне жыта праз *трыер*. Гэтая апошняя машына значна дарагая і аднаму селяніну купіць яе не пад сілу, дзеля гэтага трэба ці купіць яе ў хаўрусе з суседзьмі ці пазычыць на агропункце, або ў саўхозе.

Такім чынам ачышчанае насеньне можа даць добры ўраджай, калі яно будзе мець добрую сілу прарастаньня (усхожасьці).

Практычна, сілу прарастаньня насеньня можам акрэсьліць у наступны спосаб: адлічваем 100 зярнят жыта, памяшчаем іх у цёплай хаце на талерцы, між двума кавалкамі змочанага ў вадзе палатна, якія ў працягу некалькіх дзён трымаем у вільготным стане, пакуль зярняты не пачнуць прарастаць. Пасьля таго, як яны прарастуць, падлічваем, колькі зярнят прарасьлі.

Добрай сілай прарастаньня можна лічыць калі з 100 зярнят ня менш як 90 прарарстуць.

Асабліва трэба зьвяртаць увагу на сілу прарастаньня, калі для пасеву ўжываем насеньне, куплянае ці леташняе.

Апрача чыстасьці і добрай сілы прарастаньня насеньне павінна мець адпаведную вагу і ня быць тухлым.

## Спосабы сяўбы.

Даход гаспадара ад поляводзтва будзе тым большы, чым меншай колькасьцю насеньня (высеву) атрымае найвышэйшы ўраджай.

У агульных нарысах у сучасны момант ужываюць наступныя спосабы сяўбы: 1) пасеў раскідны ручны; 2) пасеў раскідны машынны; 3) пасеў радавы і 4) пасеў гнёздавы.

Пры *пасеве раскідным ручным* зярняты трудна расьсеяць роўна і дзеля гэтага прыходзіцца іх засяваць больш чымся пры *раскідным машынным*. Сяўнік раскідны (мал. 4) можна паставіць так, што ён будзе высяваць пэўную колькасьць зярнят, пры тым зярняты раскідвае роўна па ўсёй плошчы. З гэтай прычыны можна на 10 процантаў высяваць насеньня менш, чым пры ручным пасеве.

*Пасеў радавы* вымагае дакладнай апрацоўкі глебы. На навінах, на грунтох заросшых пустазельлем і пырнікам радавы сяўнік (мал. 5) будзе запыхацца. На мокрай зямлі з гэтай-жа прычыны нельга сеяць—трэба чакаць, пакуль ральля зусім не прасохне. На такіх глебах лепшы будзе пасеў раскідны машынны, чым радавы.

Аднак, калі мы мелі магчымасьць дакладна падрыхтаваць для пасеву глебу, пасеў радавы мае многа добрых старон:

1) Насеньне памешчанае на аднолькавай глыбіні з адначасным прыкрыцьцем вільготнай зямлёю, дасьць аднолькавыя і роўныя ўсходы, а пасьля і дазраваньне;

2) Насеньне памешчанае на аднолькавай адлегласьці ў радкох, знаходзіцца ў аднолькавых умовах, з боку атрыманьня пажыўнасьці з глебы, а, значыцца,—і разьвіцьця;

3) Дае магчымасьць вясьці міжрадную апрацоўку збожжа палольнікамі і асыпнікамі;

4) Прымушае гаспадара да стараннага вырабу грунту, бяз якога радавы пасеў немажлівы і

5) Пасеў радавы дае значную ашчэднасьць насеньня (25-30 проц.) у параўнаньне з пасевам раскідным машынным.

Там дзе ўмовы гаспадарак дазваляюць на куплю машын, трэба аб'яднаўшыся ў машыннае таварыства купіць раскідны, альбо радавы сяўнік а яшчэ лепш абодва (раскіднога сяўніка будзе даволі на 100-120 дзесяцін, а радавога—30-35 дзесяцін), тым больш, што Савецкая ўлада дае доўгатэрміновы крэдыт машынным таварыствам і аддзельным гаспадаром членам коопэрацыі.

*Пасеў гнёздавы* найбольш дакладны, робіцца ён ручным спосабам такім парадкам, што насеньне садзіцца ня толькі радамі, але і ў радох на пэўнай адлегласьці адно ад другога.

## Колькасьць высеву насеньня.

Залежыць ад многіх прычын і дзеля гэтага можна радзіць: 1) пры раньнім пасеве азіміны сеяць можна менш густа, пры позьнім—гусьцей; 2) на грунтох з пустазельлем і дрэнна выробленых трэба сеяць гусьцей, чымся на грунтох чыстых і добра выробленых і 3) ад спосабу пасеву, аб чым ўжо раней казана. У нашых умовах, калі сяўба ня спозьненая і ня вельмі раньняя, трэба высяваць пры пасеве ручным—10-11 пудоў на дзесяціну, пры пасеве раскідным машынным—9-10 пудоў, пры радовым—6-7 пуд. і пры гнёздавым 3-4 пуды.

## Прыкрыцьце насеньня.

Прыкрываеш насеньне пры раскідным пасеве пружыноўкай, або 4-х лямешным плугам, калі іх маеш, а пасьля ў адзін сьлед звычайнай жалезнай бараною напоперак ворыву ці баранаваньню; калі-ж іх няма прыкрываем ў два сьляды баронамі накрыж.

Пры радавым пасеве зярняты прыкрыты і іх баранаваць ня трэба. Заўсёды трэба памятаць, што перад пасевам грунт трэба дакладна выраўнаваць асабліва перад радавым. Ул. Даведчык.

**АД РЭДАКЦЫІ: Рэдакцыя „М. А." з вялікім жалем паведамляе чытачоў аб неспадзяванай сьмерці аднаго з першых нашых супрацоўнікаў—агронома ЎЛАДЫСЛАВА ДАВЕДЧЫКА.**

# ГОРАД.

## ЖЫЦЬЦЁ І ПРАЦА МАЛАДЫХ ГАРБАРОЎ.

### Завод-школа імя Соскіна.

#### Першыя крокі.

Было гэта яшчэ ў 1921 г. У той час пачала ажываць наша прамысловасьць. Закіпела жыцьцё на фабрыках і заводах. І вось для навучэньня працы, да іх пачалі прымацоўваць моладзь. Але вучыцца на заводзе было цяжка. Уся кваліфікованая сіла была занята адбудоўкаю прамысловасьці.

Па ініцыятыве сакратара ЦК ЛКСМБ т. Соскіна (яго імя школа цяпер і носіць) была адчынена гэта школа-завод для гарбароў.

Заданьнем школы было—падрыхтаваць добрых гарбароў.

З запалам узяліся хлопцы за работу і вучобу. Іх зараз налічваецца 55.

Што выробляе завод імя Соскіна? А ў ім выробляюць тавар на боты (халявы, падэшвы і інш). Гэты тавар выробляецца з сыр'я. Сыр'ё праходзіць шмат аддзяленьняў, пакуль стане годным да ўжытку. Першае аддзяленьне—зольнае, дзе робяць скуру чыстаю ад шэрсьці, потым дубільнае—дубяць яе, далей скура пераходзіць у фальсоўку, тут скура робіцца гладкаю, потым яе хварбуюць, сушаць і адсылаюць на склад.



У гарбарні. Дзяўчаты за працай.

Каб быць добрым гарбаром, трэба шмат вучыцца. І хлопцы тры гады працуюць і вучацца на сваім заводзе.

#### Посьпехі ёсьць.

За чатыры гады свайго існаваньня школа ўжо мела некалькі выпускаў. Апошнія выпускі былі ў 1924 г.—13 чал., і ў 1925 г.—18 чал.

Тыя хлопцы, якія скончылі школу—працуюць на дзяржаўных гарбарных заводах, як спэцыялістыя-рабочыя.

#### 100 проц. вучняў—комсамольцы.

Як толькі завод пачаў працаваць, на ім зараз-жа організавалася комсамольская ячэйка. З вялікай ахвотай пацягнуліся да яе вучні. І праца ячэйкі пачала мацнець.

У гурткох праца ішла здавальняюча, выпусьцілі насьценную газэту „Малады Гарбар". Прымаюць удзел у будаваньні газэты ўсе вучні. Да гэтага часу вышла ўжо 10 нумароў.

Здароўе сваё хлопцы ўзмацняюць у спортгуртку.

Комсамольская ячэйка сваёю працаю заваявала вялікі аўторытэт. Аб гэтым сьведчыць тое, што ўсе вучні—комсамольцы.

#### Трымаем сувязь з вёскаю.

Ужо мінуў год з таго часу, як наша школа-завод пачала шэфстваваць над Каралішчаўскім сельсаветам, Самахвалавіцкага р.

Кожную нядзелю хлопцы робяць выезды ў падшэфны сельсавет, куды вязуць літаратуру, газэты.

У хаце-чытальні (у падшэфнай) адчынілі розныя куткі. З вёскай рабочая моладзь сувязь трымае. **Як. Садоўскі.**

# З жыцьця чырвонага Бальтыцкага Флёту.

**Кожны комсамолец павінен добра быць знаёмы са становішчам нашага воднага флёту. Комсамол Беларусі трымае шэфства над лінейным караблём „Парыская Комуна". „Парыская Комуна" знаходзіцца ў Бальтыцкім моры. З мэтай асьведамленьня чытача, што робіцца і як праходзіць жыцьцё ў Бальтыцкім моры, друкуем ліст чырвонафлётца для нашай часопісі.**

1925 год зьяўляецца паказальным годам у гісторыі нашага чырвонага ваенна-воднага флёту. У гэтым годзе летняя кампанія была адчынена на месяц раней звычайнага (нават у даваенныя часы флёт ня выходзіў у моря так рана). У Бальтыцкім флёце большасьць караблёў вышла ў мора першага красавіка, у той час, калі мора яшчэ было не аслабанілася ад лёду.

### Хто непакоіцца.

Вядома, што вось гэта зьяўляецца вялікім дасягненьнем. Нават замежны друк, у першую чаргу „суседкі" Фінляндыі прымушан быў „прызнаць", (ўжо каторы раз яны „прызнаюць"!?) гэты факт, факт адбудованага і з кожным годам узмацняемага Чырвонага Флёту. Ангельскі марскі друк за апошнія гады надзвычайна цікавячыся нашым флётам прымушан быў адзначыць наш новы крок па шляху будаўніцтва марской узброенай сілы. Вядома ўсе гэтыя зьвесткі перапоўнены паведамленьнямі— „бальшавікі узбройваюцца", „чырвоная пагроза" і інш., і, як водзіцца, прыкрываючыся гэтым, сьпешна приступілі да пабудовы новых сродкаў зруйнаваньня. Існуючыя на грошы Францыі, Амэрыкі, Ангельшчыны—Фіндляндыя, Польшча заказваюць караблі, будуюць для іх новыя базы, „ваенізіруюцца" ва ўсю.



Тыпы чырвоных маракоў.

Непакоіць узрост Чырвонага Флёту і больш „значных" дзяржаў чымся Польшча. Гэтым летам наведваюцца ў Бальтыцкае мора эскадры караблёў цэлага шэрагу дзяржаў як: Голяндыі, Намеччыны, і Ангельшыны, з мэтай, быццам, „вучэбнага плаваньня". Але правільней будзе, калі скажам замест „вучэбнага плаваньня"—„папарэдняя разьведка".

### На практыцы

Шырока разгарнулася кампанія. Флёт з поўнай падрыхтоўкай сустрэў яе. Горда хвалююцца ў паветры чырвоныя сьцягі на мачтах баявых караблёў. З сілай прарэзваюць сваім форштэўнем упартыя хвалі Бальтыцкага мора лінейныя караблі, крэйсэры, мінаносцы.

Чырвоны Бальтыцкі флёт на баявой вучобе. Працы—па горла. Ніхто не застаецца бяз справы, Раніца. Ледзь праб'е на караблі пяць гадзін і бурліць—кіпіць жыцьцё. Развод на працу. Пачынаецца мыццё, уборка карабля. Ані водзін куточак не застаецца бяз увагі. Усюды пабывае вялізная швабра. Затым пачынаюцца заняткі.

Вечар. Адбой. Скончыўся працоўны дзень. Апэтытна зьнішчаецца вячэра. Свабодныя ад вахт чырвонафлётцы „па густу" абіраюць заняткі. Вось на палубе аднаго з караблёў купа маракоў падае ад сьмеху, гледзячы на „фокусы" свайго мядзьведзя Мішкі; у кубрыку частка маракоў занята „адбудовай" свайго абмундыраваньня. Але большасьць чырвонафлётцаў свае свабодныя часіны праводзіць у Ленінскім кутку. Там газэты, часопісі, адным словам навіны са ўсяго сьвету. Часта на вялікіх караблёх наладжваецца кіно і тады зьбіраюцца маракі паглядзець.

Аднак хутка ўсё змаўкае. Моцны сон пасьля працоўнага дня агортвае маракоў, і, толькі вахценныя пільна даглядаюць карабель. А варта прагучэць трывозе, і ў момант усё ажывае. Усе на сваіх мясцох.

Так са дня на дзень жыве, працуе Чырвоны Флёт, праводзіць сваё вучэбнае плаваньне, у процівавес „вучэбнаму плаванью" капіталістых.

### Вялікі паход.

Паходы зьяўляюцца аднэй з неабходных умоў для жыцьця і існаваньня флёту. Толькі ў паходзе заўважаюцца раней няпрыкмечаныя недахопы, толькі праз паходы дасягаецца марская практыка.

У канцы чэрвеня месяца быў праведзены паход па Бальтыцкім моры. Флёт быў амль што ва ўсіх кутках Бальтыцкага мора, даходзіў да берагоў Намеччыны, Швэцыі, Эстоніі, Латвіі.

—Здорава пакачала—чутны водгукі маракоў пра гэты паход.

У працоўных СССР ёсьць надзейны абаронца. Імя яму Чырвоны Флёт.

**Чырвоны марак** *Б. Нік.*




# Хведзька комсамолец.

*П'еса ў 3 дзеях з жыцьця Заходняе Беларусі.*

А. ДАБРАВОЛЬСКАГА.

Асобы.

| | | |
|---|---|---|
| Хведзька | 18 год | |
| Мацей—яго бацька | 45 | „ |
| Гуляна—маці Хведзькі | 40 | „ |
| Янка—Сябар Хведзькі | 17 | „ |
| Грышка—Сябар Хведзькі | 18 | „ |
| Зіна— „ „ | 14 | „ |
| Надзя— „ „ | 14 | „ |
| Міхась— „ „ | 15 | „ |
| Два жандары. | | |

Усе тры дзеі адбываюцца ў вясковай хаце Хведзькіных бацькоў, якія нядаўна вярнуліся з бежанства ў Расіі.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ.

### Зьява I.

Хведзька (адзін).

Хведзька (*адзін*). Ужо з месяц часу прашло, як я вярнуўся з Расіі сюды ў родны куток, як бацькі мае кажуць. І яшчэ да гэтага часу я не магу зразумець, куды я папаў. Усё тутэйшае для мяне здаецца разам і новым і старым, бо аб усім гэтым я чуў у Расіі. Але-ж чуць—адно, а бачыць сваімі ўласнымі вачыма зьдзекі панскай улады—другое. Няма таго дня, каб ня бачыць гэтых зьдзекаў. Пазаўчора праходзілі праз нашу вёску жандары і зьбілі аднаго старога, які шапкі ня зьняў перад імі. Учора пан сусед заняў да хлява палавіну быдла нашае вёскі за тое, што яно зышло на яго выган, і трымае да цяперашняга часу. Сягоньня сышчыкі зьбілі трох нашых сялян, якія вышлі гараць у дзень трэцяга мая, іхняга буржуазнага сьвята. Агулам панскія бізуны ніколі не адпачываюць. Я трохі ўжо пачаў вясьці барацьбу з імі.

### Зьява II.

Хведзька—Мацей.

Мацей (*уходзячы*). Што-ж ты, сынку, заўсёды такі задуманы. Можа ты не здароў? Кажы! Будзем рабіць які кольвек ратунак!

Хведзька. Праўда, тата, я хворы. І хворы я тым, што мне прыходзіцца кожны дзень бачыць зьдзекі панскай улады над бедным народам. Ты ведаеш, што рос я ў Расіі і ў Расіі цяперашняй, вызваленай, дзе ня ўбачыш такіх зьдзекаў. Дый адкуль мне падабацца будзе ўсё гэта?

Мацей. Нічога ня зробіш, сынку, трэба прывыкаць. Вось мне так нічога дзіўнага тут няма. Праўда, вырас я пад сьвіст панскага бізуна і жыў доўга пад страхам яго, дык прывыкаць ня цяжка. Пабыў я гэтых чатыры гадкі ў зволыненай Расіі, праўда, прывык чуць, што і я чалавек такі самы, як і ўсе людзі. Але-ж прыехаў вось сюды, так адразу ўсё гэта маё чуцьцё раптам прапала. Трэба прывыкаць, дзеткі.

Хведзька. Не, татка, я ні за што ня прывыкну, бо я надта не згаджаюся з усім тым, што тут робіць панская ўлада.

Мацей. Ну, добра, ты не згаджаешся, так што-ж ты можаш карыснага зрабіць у гэтай справе? Ты—блазан, гэта раз. Другі раз, з імі вясьці барацьбу—усё роўна, што сьцяну прабіваць кулаком. А пачнеш што гутарыць насупроціў іх, так яны скора дадуць табе месца ў вастрозе. Ці-ж ня лепей ня бачыць гэтых вастрогаў?

Хведзька. А памойму лепей сядзець у вастрозе, чымся цярпець штодзенныя іхнія зьдзекі. У паноў і вастрогаў ня хопіць садзіць усіх тых, хто супроціў іх ідзе; бо ўжо людзі дужа зразумелі, дзе праўда і дзе крыўда. Можа толькі адныя старыя, як ты, тата, могуць згадзіцца з панскай уладай.

Мацей. Праўду ты кажаш, але-ж няхай старэйшыя думаюць аб гэтым, а не такія, як ты, блазны.

Хведзька. Усім, тата, трэба і ня толькі думаць, але-ж і справу рабіць, каб скарэй прыдушыць ня толькі паноў, а нават і ўсіх тых, хто ім служыць!

Мацей. Дзеткі мае, хто іх прыдушыць? Ты-ж сам бачыў, колькі было па дарозе, як мы ехалі сюды, чарнаты гэтай—паліцыі. Усё гэта іх панская ўлада трымае, каб яны не давалі расхадзіцца тым, хто не здаволены ёю.

Хведзька. Ты глядзеў на чорных наемнікаў панскіх і кажаш, што іх многа. А ты думаў

над тым, сколькі беднага народу, які ад іх церпіць зьдзекі?

Зьява III.

Хведзька—Мацей—Янка.

Янка (*ўходзячы*). Добры дзень, дзядзька! добры дзень, Хведзька!

Мацей і Хведзька. Добры, добры дзень, Янка!

Янка. Ну як? Яшчэ ўсё гаруеце? Мусі каецеся аб тым, што прыехалі сюды з Расіі?

Мацей. Мае справы старога,—я прывыкну памаленьку. Па праўдзе сказаць, і прывыкаць мне ня трэба, бо ўсё гэта мне вядома з маладых год. Я гэтыя бізуны так памятую, усё роўна, як яны з год таму назад мяне сьвянцілі.

Янка. А як-жа-ж нам, дзядзька? Прывыкнуць мы ня можам. Як я бачу, што над кім зьдзекуюцца, так мяне аж трасца трасе ад злосьці. Я не магу ніяк вытрымаць!

Мацей. Сынкі мае! Мы з Хведзькай толькі што гутарылі аб гэтым. Я ведаю, што вам цяжка вытрымаць. Але-ж якая карысьць будзе з таго, калі вы ня вытрымаеце і пасьля пападзеце ў вастрог, дзе будзеце доўго марнаваць сваё маладое жыцьцё.

Янка. Каму небудзь ды трэба пабыць і ў вастрозе; бо вызваленьне—справа вялікая, так для яго і ахвяра павінна быць вялікая.

Мацей. Як сабе хочаце. Але-ж я раіў-бы не зьвяртаць многа ўвагі, а пасьля прывыклі-б. Ну, я пайду. (*Выходзіць*).

Зьява IV.

Хведзька—Янка.

Янка. Вось ужо гэтыя старыя! Гатовы кланяцца паном і нам нават гутараць аб гэтым. Як ты глядзіш не гэта? Можа ўжо хілішся ў бацькаўскі бок?

Хведзька. Што ты, Янка! Я аб гэтым і падумаць не хачу; панскія зьдзекі надта ўжо праціўны для мяне. Я ляпей прападу, а не згаджуся з гвалтоўнікамі. Я жадаў-бы, каб усе мае сябры былі такімі пэўнымі ў нашай агульнай справе, як я. Ну Янка, а ты пісулькі перадаў ужо ўсім сябром?

Янка. Усім перадаў, скора прыдуць.

Хведзька. Каб хаця хто з маіх бацькоў ня прышоў сюды тады, як яны зьбяруцца, а то яшчэ расплачуцца. Так, Янка, так! Папрацуем на карысьць бедных і на згіноту капіталістых!

Зьява V.

Хведзька—Янка—Гуляна.

Гуляна. Добры дзень, дзетачкі!

Янка. Добры дзень, цётка!

Гуляна. Ці вы нічога ня чулі?

Хведзька і Янка. А можа ёсьць што цікавае?

Гуляна. А вось слухайце. Іду я па вуліцы, аж бачу каля Цімохавае хаты стаяць жандары. А Цімохава жонка страх як моцна плача. Я застанавілася і бачу—вядуць зьвязанага Цімохавага Кастуся і ўсе б'юць яго. Адзін жандар проста бізуном усё б'е, ды б'е. Але-ж цікава, што ўся вёска як вымерла, нават на вуліцу ніхто ня выйдзе. Вось да чаго людзі запужаны. Гэта Кастусь, бачыце, да войска іхняга не хацеў ісьці.

Янка і Хведзька (*на працягу размовы ўсё больш непакояцца*). Ах, праклятыя канаркі! Бяжым глядзець! (*Выбягаюць з хаты*).

Гуляна (*усьлед*). Іх ужо няма, яны ўжо далёка! Вось цікавяцца хлопцы. А што там цікавага? Толькі сэрца баліць гледзячы.

Хведзька (*уходзячы*). Вось глумяцца, так глумяцца!

Янка. Ну і як-жа-ж цярпець?

Хведзька. Не, немажліва цярпець!

Гуляна. Ну, а калі ня ўцерпіце, то што-ж вы зробіце? Вы-ж яшчэ сьлізаносыя.

Хведзька. Хоць мы і сьлізаносыя, але-ж сьмелыя, а хто сьмелы, той справы робіць.

Гуляна. Пакінь ты гутарыць. Гэта...

Хведзька (*перабіваючы*). Не, у такіх рэчах мы з бацькоў ніколі прыкладу браць ня будзем!

Янка (*ціха*). Не гавары далей; старых мы перарабіць ня можам. А сваю справу рабіць будзем мы.

Гуляна. Хведзька, я ў гарод пайду, а ты не забудзься парасё пакарміць. (*Выходзіць*).

Хведзька. Добра, мамачка. (*Да Янкі*). Толькі слухай старых, так яны скора падстаўяць нашыя комсамольскія плечы пад панскія бізуны.

Янка. Якая наша праца цяжкая. Бойся ня толькі паноў дый іх наемнікаў, але яшчэ і сваіх уласных бацькоў, каб яны не затрымоўвалі нашае працы.

Хведзька. Нічога, сябру, пераможам усё!

Зьява VI.

Хведзька—Янка—Грышка—Зіна—Надзя—Міхась.

Грышка. У добрую гадзіну зашлі да вас—нікога няма? Добры дзень!

Хведзька і Янка. Вельмі рады, вельмі рады! Добры дзень!

Хведзька. Толькі калі прыдзе мой бацька ці матка, то вы пытайцеся ў іх, ці ня бачылі яны чырвонае цялушкі, што нібыта ў вас зьбегла.

Міхаська. Мы добра ведаем, як з старымі гутарыць.

Зіна. Якія-ж мы тады былі-б комсамольцы, каб нават і ад старых не маглі выкруціцца! (*Сьмяюцца ўсе*).

Хведзька. Калі вы мае пісулькі атрымалі?

Усе. Учора ўвечары.

Хведзька. Ну, сябры, будзем гутарыць аб справе. Каго мы выберам сабе павадыром?

Усе. Хведзьку! Хведзьку!

Хведзька. А хто будзе маім намесьнікам?

Усе. Янка! Янка!

Хведзька. Дзякую вам, сябры! Буду старацца, каб з гонарам выйсьці з гэтага дрэннага становішча, у якім мы знаходзімся. Зьдзекам буржуазіі ня будзе канца, пакуль яны ня будуць пакараны тымі, над кім яны цяпер зьдзекуюцца. Справа наша цяжкая, але-ж мажлівая. У ёй мы

ня толькі не павінны даражыць бацькаўскімі да нас адносінамі, але-ж нават і сваім жыцьцём. Мы павінны ведаць, што мы не адныя, што нашыя сябры і ў гарадох і ў вёсках вядуць працу вызваленья. У сваёй працы ўсе мы павінны шукаць пэўных нам сяброў, каб пашырыць наш гурток. Пакуль што мы гэта павінны рабіць. А цяпер мы дамо адзін аднаму сяброўскае слова не шкадаваць свайго жыцьця ў барацьбе за лепшае беднага народу.

Усе (*падаючы рукі сябар сябру*). Будзем вясьці барацьбу да канца!

Хведзька. У нас да гэтага часу ўжо зроблена сувязь з сялянскімі рэволюцыйнымі гурткамі. Астаецца яшчэ зрабіць сувязь з працоўнымі гурткамі гораду. Заўтра я пайду ў горад і гэта там зраблю. А вы, Янка, Грыша, Зіна, Нядзя і Міхаська, ідзеце ў свае вёскі і даведвайцеся, дзе ёсьць пэўныя сябры і прылучайце іх да нашага гуртка.

Усе. Усё гэта зробім!

Хведзька. Так вось, сябры, трэба асьцярожна брацца за працу. Без агульнай рады нічога не рабіць. А цяпер на свае месцы пойдзем.

Усе (*разьвітваюцца*). Усяго добрага!

Хведзька. Усяго добрага. (*Застаецца адзін*). Вось маладыя падпольнікі. Усе яны ўчыліся, жылі ў Расіі і былі там комсамольцамі. Прыехалі сюды разам з сваімі бацькамі, як і я, з бежанства і сваіх комсамольскіх абавязкаў яны не забылі. Яны іх добра памятуюць, і гэтую справу, за якую мы ўзяліся, яны давядуць да канца. Яны добра памятуюць лёзунг: „Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!“

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ.

### Зьява I.

Мацей—Гуляна.

Гуляна. Дзе-ж наш гэта Хведзька так доўга забавіўся? Чакаем, чакаем, а яго ўсё няма, ды няма.

Мацей. Ён-жа-ж да Бярэзаўцаў да цёткі пашоў, дык чаго-ж табе плакаць па ім. Калі так доўга яго няма, то можа ён так дзе забавіўся, за гаварыўся,—ён-жа-ж хлопец не маўклівы.

Гуляна. Ды ўжо за такі час можна нагутарыцца па горла. У мяне толькі і думкі, каб з ім чаго дрэннага ня здарылася?

Мацей. Няўжо-ж ты думаеш, што ён такі ўжо някудышны. Ён хоць малы, а ўсё-ж такі рухавы і бывалы хлапчына.

Гуляна. Вось рухавыя заўсёды скарэй набягаюць на розную бяду.

Мацей. Ну, досыць! Забядавалася саўсім, ёсьць над чым бедаваць. Лепей бядуй над тым, што хлеба няма, галадаць скора прыдзецца. Хведзька прыдзе, ня згіне. А цяпер—пойдзем аб гаспадарцы рупіцца. (*Выходзіць*).

Гуляна. Твая справа бацькоўская, а мая матчына. Мне ад мала-маленькай рэчы заўсёды прыходзіцца сэрцам хварэць. Ох, ох! (*Выходзіць*).

### Зьява II.

Хведзька (адзін).

Хведзька (*уваходзіць, у руках торба, туга набітая*). Нікога няма. Мусіць быць тата з мамай на полі. Што яны думалі пра мяне? Ці дагадаліся, што я ў горад пашоў, бо я ім сказаў, што пайду да свае цёткі ў Бярэзаўцы? Ну але-ж няхай дагадваюцца. Найлепей, што я не дарма схадзіў у горад. Пасьля гэтага мы ўсе будзем ведаць, што мы не адныя тут змагаемся і што шмат людзей ёсьць, якія таксама нездаволены панскай уладай і вядуць барацьбу з ёю. А шмат, шмат я раскажу сваім сябром і пацешу іх.

### Зьява III.

Хвезька—Янка.

Янка. Добры дзень! Хведзька! Ну як, усё добра обышлося?

Хведзька. Добры, добры дзень! У мяне справы добрыя.

Янка. Як убачыў я, што ты ідзеш да хаты, так я за табою. Пільнаваў цябе гадзіны дзьве. Ну, і як-жа-ж не пільнаваць, калі я быў пэўны, што ўсё зробіш патрэбнае для нас і прынясеш добрыя весткі.

Хведзька. Ты паглядзі, што я прынёс! (*Паказвае торбу з паперамі. Абодва голасна радуюцца*). Я табе частку іх дам, а рэшту другім аддам. На, вось табе,—раскідаеш на крыжавых дарогах і ў відных мясцох. (*Янка бярэ літаратуру і хавае яе*).

Янка. О, Хведзька! Цяпер мы самыя рэволюцыянэры. Уперад мы толькі чыталі пра іх, а цяпер такія самыя, як і яны,—будзем распаўсюджваць літаратуру.

Хведзька. Янка, схавай добра, а ноччу раскідаеш. Так, так, праўда, і мы барацьбіты за лепшае беднага народу.

Янка. Ну, што там у горадзе цікавіліся намі?

Хведзька. Надта, надта цікавіліся і нават абрадваліся, як я да іх прышоў. Але-ж доўга я шукаў іх. Іду па вуліцу, а паліцыянтаў шмат-шмат. Мне так і здаецца, што мяне вось зараз і астановяць. Пасьля ўсё-ж такі знашоў я сваіх сяброў. Яны сталі пытацца ў мяне пра ўсё, давалі мне настаўленьні розныя і прыслалі нашым тутэйшым сябром рэволюцыйнае прывітаньне.

Янка. А ў іх там малыя такія, як мы, рэволюцыянэры ёсьць?

Хведзька. Ёсьць, ёсьць і ўсе такія рухавыя, што а-яй!

### Зьява IV.

Хведзька—Янка, уваходзяць: Грышка—Зіна—Надзя—Міхалка.

Усе. Вітаем, вітаем сябру! Ну, як справы?

Хведзька. Усё добра! Только што вярнуўся. Перадаюць адтуль шчырае прывітаньне ўсім вам. Прыемна мяне там спаткалі. А гасьцінцу якога вам прыслалі! (*Паказвае паперы ў торбе*). Вось паглядзеце на іх.

Усе. Пакажы, пакажы!

Хведзька (*паказваючы*). І лістоўкі, і газэты, і кнігі,—усё ёсьць. Я вам раздам іх. Па дарозе яшчэ як я ішоў, думаю, давай разлажу на кожнага, каб прышоўшы да хаты можна было адразу раздаць. (*Раздае*). Ты, Грышка, з Зінай пойдзеце ў мястэчка Міхнічы; заўтра там будзе кірмаш, так вы ўсё гэта пораскідаеце па вазох, толькі старайцеся быць асьцярожнымі. А ты, Міхаська з Надзяй,

дзеце ў мястэчка Дунаевічы; там будзе ў чацьвер кірмаш, там вы таксама раскідаеце гэта па хатах сялянскіх. Як па дарозе будзеце ісьці, то і прыклейвайце да хвоек, да слупоў. А покуль што гэта ўсё схавайце добра. Калі хто па неасьцярожнасьці пападзецца жандарам, ад усяго адмаўляйцеся і сяброў ня выказвайце.

Усе. Гэта мы добра ведаем!

Хведзька. Цяпер вось вам кнігі прыслалі, аднэй на кожны гурток. (*Падае тры кнігі*). Карыстайцеся імі толькі самі, а сябром тым, якія яшчэ вам добра невядомы, не паказвайце. Перадаюць нам, што працоўны і сялянскі рух павялічваецца з кожным тыднем. Ворагі гэтага руху стараюцца усімі сіламі затрымаць яго, але-ж няма такой сілы, якая магла-б зрабіць гэта.

### Зьява V.

Тыя-ж і Гуляна.

Гуляна (*уходзячы*). А-а-а! Колькі сабралася хлапчыкаў. А як выходзіла, то хата зусім была парожняя. Дзе-ж ты так доўга быў, Хведзька?

Хведзька. У Бярэзаўцаў, мамка.

Гуляна. Доўга, доўга ты там быў. А чаго-ж гэта хлопчыкі папрыходзілі?

Грышка. У нас, цётачка, згінула чырвоная цялушка, так вось мы яе ўжо трэці дзень усё шукаем і ніяк знайсьці ня можам.

Гуляна. Не, дзетачкі, я ня бачыла ніякай цялушкі. А-а-а! прапала. А можа яе ваўкі зьелі?

Грышка. Невядома, цётачка.

Гуляна. Хведзька, ці ты парасяці есьць даваў ці не? (*Выходзіць*).

Хведзька. Даваў, мамачка. Так вось, сябры, бядаваць нам няма чаго. Усё даецца чалавеку не дарма, а тым бардзей вызваленьне ад гэтых зьдзекараў. Цяпер разойдземся для сваёй працы. Будзем шукаць пэўных сяброў і гуртаваць іх, будзем будзіць тых, якія яшчэ сьпяць, каб яны прабуджаныя вашлі ў жыцьцё барацьбы за вызваленьне беднага народу ад капіталістых!

ЗАСЛОНА.

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ.

### Зьява I.

Мацей—Гуляна—Хведзька.

Гуляна. Дзеткі, дзеткі! Куды-ж ты гэта так доўга цягаўся ўчора? Я толькі не хацела табе і сабе стыду рабіць перад чужымі. Ты таго ня ведаеш, колькі я сьлёз праз цябе праліла. Ці-ж добра так рабіць? Казаў, пайду ў Бярэзаўцы. Прашоў вялікі час, а цябе ўсё няма дый няма. Пытаюся ў бацькі. Ён кажа, што можа ты рыбу дзе ловіш. Як ён сказаў гэта, так мне аж сэрца забалела; сабе думаю, можа дзе ўтапіўся?

Хведзька. Мама, ты так гутарыш, усё роўна, як нічуць ня ведаеш мяне. Я тваё дзіця і хто-ж можа мяне больш ведаць за цябе? Куды я ні пайду, так ты заўсёды можаш быць пэўнай, што я нідзе не прападу, бо мне ня першы раз хадзіць без бацькоў.

Гуляна. Ніколі ня было так неспакойна, як цяпер. Ты-ж сам ведаеш, што ўсюды, па ўсіх дарогах езьдзяць жандары, паліцыя і ўсё некага ловяць. Ну ці-ж можна быць пэўнай, што ўсё дабром магло кончыцца?

Мацей. Ты, Гулянка, менш наракай, а ты, Хведзька, другі раз так не рабі: кажы куды ідзеш і калі вернешся.

Хведзька. Добра, татачка.

Мацей. Ну, досыць. Хведзька больш ня будзе так рабіць, каб бацькоў гнявіць. Будзь ты ў хаце, Хведзька, адпачынь сабе, а мы пойдзем працаваць, бо ўжо будзе вечар блізка. (*Выходзяць*).

Хведзька (*адзін*). Што бацьком сваіх дзяцей шкода, то гэта праўда, але ці-ж праз іх варта сядзець злажыўшы рукі? Не, гэта не памойму. Буду працаваць, покуль будзе магчымасьць!

### Зьява II.

Хведзька—Зіна.

Зіна (*убягаючы*). Хведзька, сьцеражыся! Ад самага ранку па дарогах усё езьдзяць жандары. Ужо Грышку арыштавалі. Каб ды больш чаго дрэннага ня было. Яго білі і выпытвалі, але-ж ён нічога не сказаў. Матка яго прагаварылася: сказала, што пазаўчора ён хадзіў у вёску Хвайняны. Бачыш, могуць прыехаць сюды і абшукаць цябе і ўсю вёску. Сьцеражыся, Хведзька!

Хведзька. Даўно гэта было?

Зіна. З ранку самага.

Хведзька. Усё дабром скончыцца. Гэта нам першы комсамольскі экзамін. Грышка нічога ня скажа, а бацьку могуць не паверыць. А ты, Зіна, бяжы дый перадай усім, усім сябром, каб яны былі нагатове. Калі каго арыштуюць, то трэба адабраць з рук гэтых наймітаў панскіх.

Зіна. Добра, я пабягу, калі толькі пасьпею.

### Зьява III.

Хведзька—Мацей—Гуляна.

Мацей. Паліцыя чагось-та йдзе ў нашу вёску.

Гуляна. Мне прачуваецца, што нешта дрэннае будзе.

Хведзька. Што там дрэннага! няма таго дня, каб яны тут не цягаліся. (*Выходзіць*).

Мацей. Мы баімся і ўся-ўся вёска так баіцца. А ўсё праз што? Ды праз тое, што яны ніколі ў вёсцы не пабудуць, каб ня зьбіць каго, небудзь.

Гуляна. Вось у тым-та і справа, што ўсякі ведае, што некага яны будуць біць, а, каго—так ніхто ня ведае. Усякі думае: мяне, мяне. І ўсе такім чынам баяцца.

Хведзька (*уваходзячы*). Вядуць жандары некага арыштованага па вуліцы, я хацеў пазнаць, але не пазнаў. (*Усе глядзяць у вокны*).

Мацей. Каго-ж яны там вядуць?

Гуляна. Мне ўжо вочы добра ня служаць, так я і не пазнаю.

Хведзька. Грышку, Грышку, з Бялкоў.

Мацей. Ці-ж Грышку?

Хведзька. Грышку, Грышку! Я пазнаў. Каб не да нас яго часам?

Мацей. Глядзяць па нашу хату!

Хведзька. На нашу, на нашу!

Мацей. Але-ж маладых такіх і арыштоўваюць.

Хведзька. Да нас вядуць! Я іх не баюся. Толькі, каб вы не палохаліся!

Гуляна (*спужана, трасучыся ад страху*). Ой, ой дзеткі мае!

Мацей. Ужо і перапужалася. (*Усе глядзяць у дзьверы. Дзьверы адчыняюцца і ўваходзяць два жандары, якія вядуць Грышку*).

Зьява IV.

Тыя-ж.—Два жандары—Грышка.

1 жандар. Добры вечар!

2 жандар. Вы вшысцы ест заарыштаваны! Ты, стары, пес, твоя вшыстка родзіна ў дому?

Мацей. Паночкі, я не разумею, што такое родзіна.

1 жандар. А, не разумееш, пся крэў твоя! (*Да Хведзькі паказваючы на Грышку*). То твуй спульнік?

Хведзька. Я яго ня ведаю.

1 жандар (*да Грышкі, паказваючы на Хведзьку*). А то твуй спульнік?

Грышка. Я яго ня ведаю.

2 жандар. А, не веш! Я тобе покажа „ня ведаю!“ (*Б‘е Грышку*).

Хведзька (*ня ўтрымаўшыся*). За што вы б‘еце яго, сабакі панскія!? Вам яшчэ мала зьдзекаў над бедным народам!

2 жандар. А то нема чэго гадаць! Ты ест заарыштаваны! Ходзь з намі! (*Забіраюць Хведзьку і вядуць з хаты разам з Грышкам*).

Мацей і Гуляна (*за імі*). За што, за паночкі?

Абодва жандары. Мільч! Ідзь до ... (*Мацей і Гуляна ідуць за імі з плачам. Праз ... роткі час варочаюцца*).

Зьява V.

Мацей—Гуляна.

Гуляна. А мой-жа-ж ты, Фёдарка! ... што-ж цябе ўзялі гэтыя панскія сабакі?!

Мацей. За што-ж яго ўзялі, арыштав... Ён нічога дрэннага не зрабіў,—я думаю што ... звольняць.

Гуляна. А калі і звольняць, то ўсё роўна поў здароўя адымуць. (*Плача. Убягае Хведзька, Мацей і Гуляна палохаюцца*).

Зьява VI.

Мацей—Гуляна—Хведзька.

Хведзька. Татачка, мамачка! Я вырваўся ... рук гэтых зьдзекароў. Мае сябры напалі на іх, ... яны мяне вялі. Аднаго канарыка забілі, дру... паранілі. Яны мяне арыштавалі за тое, што ... волюцыянэр. Вы гэтага яшчэ ня ведалі. Та... дайце гэта. Цяпер я звольнены. Мая воля по... што будзе паміж лясоў і палёў. Я буду гуртава... такую сілу, каб звольніць усіх бедных сялян і рабочых і, каб яны гэтай воляй карысталіся ў сваіх вёсках, сёлах і гарадох! Выбачайце мяне! Заставайцеся здоровымі!

Мацей і Гуляна. Сынку, мой сынку! За што-ж нас з табою разлучылі?

ЗАСЛОНА.

(Канец).

# Вясковая моладзь пра сваю часопісь.

## „Малады Араты“ заваяваў сымпатыю вясковай моладзі.

(*в. Клянік. Смалявіцкі раён*).

Да жніўня месяца ў нашу вёску ледзь прабіраўся адзін экзэмпляр часопісі „Малады Араты“. Здавалася, што ня тут яму распаўсюджвацца, абавязкова замрэ, вёска застанецца без „Аратага“, але ня так вышла. Першы нумар часопісі „Араты“ адразу зьвярнуў на сябе вялікую ўвагу сялянскай моладзі, „Араты“ чытаўся, як пісьменнымі так і малапісьменнымі з захапленьнем, з надзвычайнай зацікаўленасьцю... Проста, ясна, пароднаму малявалася перад вачыма жыцьцё наша сярмяжнае.

— Вось дзе журнал!.. І прыгожы, на ліха яму!..

— І лоўка пішуць, пачытаць ёсьць што!..

— І каштуе—плёвыя грошы!.. кожны раз кідае, адзін другому, думкі моладзь наша. А потым і пытаньне рубам паставіла.

— Не карыстацца-ж нам усім адным экзэмплярам!? Выпісаць трэба кожнаму.

— Возьмемся за распаўсюджваньне!... Сказана—зроблена.

Уся перадавая моладзь вёскі хлынула падпісвацца на сваю родную, кроўную часопісь „Малады Араты“.

Позна надумаліся толькі падпісвацца, а і то на Клянік выпісана, на жнівень месяц усяго 20 экзэмпляраў „Маладога Аратага“, з іх 5 падпішчыкаў падпісалася на тры месяцы.

Цікава тое, што часопісь моладзі прыцягнула да сябе і старыкоў. Сярод падпішчыкаў на яго ёсьць і старыя людзі.

На верасень месяц уся моладзь Кляніка, завярае „Маладога Аратага“, што падпішацца на яго ўся.

— У калі мы ня выпішам на верасень м-ц 100 экзэмпляраў, дык жывы ня будзем!.. Так сказалі хлопцы.

І гэтаму трэба даць веры, бо сымпатыі і жаданьні моладзі мацней усяго на сьвеце.

М. Нікановіч.





# Як правесьці МЮД.

6-га верасьня — 11-ты міжнародны юнацкі дзень. Значэньне яго хаваецца ў тым, што ён зьяўляецца аглядам сіл рэвалюцыйнай працоўнай моладзі ўсяго сьвету. Комсамольскія організацыі ўсіх капіталістычных краін ужо зараз энэргічна рыхтуюцца да таго, каб выйсьці 6-га верасьня організаванымі, моцна спаянымі шэрагамі, на вуліцы гарадоў і вёсак і дэмонстраваць сваю нянавісьць к капіталістым, сваю рашучасьць у барацьбе за вызваленьне працоўнае клясы ад буржуазнага ўціску.

МЮД—дзень барацьбы, дзень падліку рэволюцыйнай моцы рабочай і сялянскай моладзі, яе адкрытага масавага протэсту супроць эксплёатацыі, няроўнасьці і бяспраўя ў умовах, у якіх яна жыве ў капіталістычных дзяржавах.

Комсамол СССР у гэты дзень будзе дэмонстраваць сваю гатоўнасьць дапамогі моладзі Захаду і Ўсходу, якая змагаецца за вольнасьць свае краіны, за яе лепшую будучыну.

Комсамольскія ячэйкі павінны, як мага, узяцца за падрыхтоўку да МЮД'у.

Падрыхтоўчая праца і самы дзень павінны быць выкарыстаны для таго, каб азнаёміць кожнага комсамольца, беспартыйнага маладога селяніна, дзяўчыну, піонэра з тымі цяжкімі ўмовамі, у якіх прыходзіцца жыць і змагацца рабочай і сялянскай моладзі тых краін, дзе ўлада знаходзіцца ў руках буржуазіі. Гэта папершае. Падругое—неабходна добра растлумачыць, якія задачы стаяць прад СССР і кожнага з нас у галіне разьвіцьця гаспадаркі, культурнасьці, умацаваньне абаронаспасобнасьці нашай краіны.

Напасьледак, трэцяя задача МЮД'у хаваецца ў тым, каб умацаваць у кожнага комсамольца глыбокае спачуваньне змагальнай моладзі капіталістычных краін, прымусіць яго пазнаць, што ён зьяўляецца сябрам КІМ'у і павінен даваць магчымую дапамогу КІМ'у ў яго рабоце, хоць-бы рэгулярным ўнясеньнем інтэрнацыянальнага ўзносу—пяці капеек.

Якую папярэднюю працу павінны правесьці ячэйкі?—а вось якую.

Трэба на бліжэйшых 2-х, 3-х сходах наладзіць гутаркі аб значэньні дня, яго гісторыі, аб рабоце й задачах КІМ'у. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на азнаямленьне з комсамолам Польшчы і Заходняй Беларусі.

Матэрыялам для гутарак павінны служыць: брошура аб гісторыі МЮД, якую выдае ЦК ЛКСМБ, чыткі газэты „Чырвоная Зьмена", у якой ужо даўно зьмяшчаецца матэрыял аб жыцьці і барацьбе моладзі Захаду і Ўсходу.

Такія-ж гутаркі варта правесьці з беспартыйнаю сялянскаю моладзьдзю свае вёскі, з піонэрамі. Для дапамогі сабе ў гэтай рабоце, вясковыя ячэйкі павінны прыцягнуць шэфскія гарадзкія ячэйкі, чырвонаармейскія часьці, партыйцаў.

У далейшым ячэйкі павінны заняцца ўхарашэньнем клюбу, хаты-чытальні, адпаведнымі да дня портрэтамі, зеленьню, лёзунгамі, організацыяй невялічкага кутка МЮД'у з юнацкай літаратуры, газэт, якія маюцца ў ячэйцы, з матэрыялаў паходу на моладзь у буржуазных дзяржавах і г. д.

Да МЮД'у вельмі каштоўна падрыхтаваць добрую насьценную ці жывую газэту (пажадана тое і другое), якая павінна адпавядаць гэтаму дню. Нельга ўвярнуцца і без пастаноўкі п'ескі, якая друкуецца ў гэтым нумары нашай часопісі „Мал. Араты". Драмгурткі павінны энэргічна ўзяцца за разучэньне п'ескі. Пажадана таксама, каб да МЮД'у комсамольцы разучылі рэволюцыйныя песьні, частушкі і праводзілі організованыя сьпевы.

Самы дзень трэба адсьвяткаваць наступным шляхам.

У дзень склікаецца шырокі мітынг з прыцягненьнем моладзі і ўзрослага жыхарства свае вёскі, дзе высьвятляецца гісторыя МЮД'у і кароценька міжнароднае і ўнутраное становішча СССР. Дакладчыкі павінны быць добра падрыхтованы і пад рукамі мець належны матэрыял. Да гэтага трэба прыцягнуць партыйцаў і прадстаўнікоў ад шэфа.

Увечары наладжваецца клюбны вечар сіламі комсамолу, піонэраў, шэфа. Програмаю вечара павінна быць: вусная газэта, ахвярованая МЮД'у, чытка характэрных матэрыялаў з жыцьця моладзі ў буржуазных краінах, прыняцьце прывітаньняў моладзі Польшчы і Зах. Беларусі, сьпевы рэволюцыйных песен, п'еска.

На вячэрніх урачыстых сходах трэба сабраць з комсамольцаў інтэрнацыянальныя ўзносы—пятакі.

Вось што можна парадзіць ячэйкам. Шмат новага могуць унесьці самі ячэйкі, калі з іх боку будзе праяўлена самадзейнасьць.

**Д. Ратнэр.**



# Што чытаць пра МЮД.

**А. Самахвалаў**. *МЮД (нарыс гісторыі міжнароднага юнацкага руху). Выданьне ЦК ЛКСМБ, 1925.*

Аўтар у сваёй брошурцы дае нарыс міжнароднага юнацкага руху, пачынаючы з часоў рэволюцыі 1848 г. Застанаўліваецца на ўтварэньні КІМ'у, на яго ўсіх конгрэсах і на сьвяткаваньні МЮД'у, як у СССР, так і ў капіталістычных дзяржавах.

Брошуру А. Самахвалава павінен пачытаць кожны комсамолец, кожны малады хлапец і дзяўчына.

Комсамольскім ячэйкам неабходна зараз-жа ўзяцца за сталае асьведамленьне з адзіным нарысам на беларускай мове з юнацкага руху.

Гэту брошурку падпісчыкі „Маладога Аратага" атрымаюць дармова, разам з гэтым (9-10) нумарам „М. А."

**Г. Чычэрын**. *З гісторыі інтэрнацыяналу моладзі. Выдавецтва „Маладая Гвардыя", стар. 126, кошт—50 кап.*

Да сучаснага моманту кніжка тав. Чычэрына зьяўляецца галоўным матэрыялам па вывучэньні юнацкага руху. Цяперашняе выданьне мае ўвагі і слоўнік цяжкіх слоў, якія сустракаюцца ў тэксьце. Гэта робіць кніжку яшчэ больш зразумелаю. Яе неабходна прачытаць кожнаму комсамольцу.

**Ул. Мірашчэўскі**. *Гісторыя КІМ'у. Выдавецтва „Пралетары", стар. 38, кошт—13 кап.*

Гэта кніжачка выглядае сабою кароценькім популярным абразком юнацкага пролетарскага руху з часу Штутгарцкага конгрэсу да 4-га конгрэсу КІМ'у. Кніжку можна радзіць кожнаму комсамольцу, які пачынае вывучваць комсамольскі рух.

**Р. Шылер і З. Баматтэр**. *Экономічнае становішча рабочай моладзі на Захадзе. Выдавецтва „Маладая Гвардыя", стар. 132, кошт—60 кап.*

Гэта кніжка складаецца з двух аддзелаў: 1—рабочая моладзь пры капіталістычным ладзе, 2—наша барацьба.

У першым аддзеле падрабязгова разглядаюцца ўмовы работы моладзі: заробчая плата, працоўны час, вучнёўства і профасьвета. У другім аўтары малююць формы экономічнай барацьбы рабочай моладзі.

Кніжку т. т. Шылера і Баматтэра трэба ўсім рэкамендаваць для чыткі. Гэта кніжка паказвае, як высока стаіць краіна пролетарскай дыктатуры па параўнаньні з „цывілізованым" буржуазным Захадам.

Кніжка надрукована на добрай паперы, ілюстрована і лёгка ўспрымаецца.

**В. Л. Сангоў**. *Сялянская моладзь у Бэльгіі. Выдавецтва „Новая Вёска", стар. 30, кошт—13 кап.*

Гэта маленькая кніжачка зьяўляецца аднэю з вельмі нямногіх кніжок, якія малююць становішча сялянскай моладзі на Захадзе.

Аўтар, даючы ў кніжцы агульны агляд становішча сялянскай моладзі, вялікую ўвагу аддае палітычнай і экономічнай барацьбе моладзі аж да ўзьнікнавеньня Комсамолу ў 1920 г.

У канцы кніжкі маецца некалькі дыяграм і карта.

**С. Кэмрад**. *Комсамол Літвы ў барацьбе. Выдавецтва „Новая Вёска" 1925 г. 112 стар., кошт—35 кап.*

Кніжка тав. Кэмрада апавядае, як жыве, працуе і змагаецца рабоча-сялянская моладзь у „дэмократычнай" Літоўскай рэспубліцы. Рабочая моладзь сагнута ў бараньні рог: 12-13 гадзінны працоўны дзень, нікчэмная плата, кулачная расправа гаспадароў, перасьледваньне за драбязную вольнасьць, апека ксяндзоў—вось як жыве моладзь па-за літоўска-беларускай мяжой. Супроць гаспадароў змагаецца, абараняе інтарэсы рабочай і батрацкай моладзі Літоўскі Комсамол. Комсамол патрабуе, каб літоўская моладзь карысталася тымі ўмовамі працы, якімі карыстаецца моладзь у СССР, організуе вакол сябе масы, вядзе працу ў профсаюзах, у вёсцы, у арміі, дапамагае Літоўскай Комуністычнай партыі ў яе барацьбе з азьвярэлаю буржуазіяй. Затое сучасныя гаспадары Літвы—ксяндзы і кулакі—сочаць за комсамольцамі, ставяць Комсамол па-за межамі закону.

Вось малюнак расправы ахранкі з комсамольцамі, ад якога робіцца жудасна: тавaрыша Б. білі па віскох, затылку і бакох. Білі галавою аб сьцяну, рвалі валасы... Тав. П. совалі галаву ў печ, якая гарэла, білі прыкладамі, ціскалі ногі і рукі, ушчаміўшы ў дзьверы.

Комсамолец БССР, які жыве ў зусім інакшых умовах, павінен ведаць, як жыве і працуе Комсамол за чырвонымі межамі. Кніжка т. Кэмрада напісана простай, зразумелай мовай, з цікавасьцю чытаецца.

# Адгадай.

## Задачкі дзядзькі Міхалкі.

### № 28.

Дадзены словы: до, варт, лён, мак, век, ох, рама, верш, мах, пура, грэх, ой, валка, ежа, віск, мары; да кожнага з іх спачатку, у сярэдзіне ці ў канцы дадаць па аднэй літары так, каб вышлі новыя словы.

З падстаўленых літар павінна выйсьці імя і прозьвішча аднаго поэты.

### № 29.

Переставіць літары фігуры так, каб можна было прачытаць 6 слоў, маючых знач.: 1) Організацыі моладзі; 2) жывёла; 3) мера вагі; 4) мыс у Афрыцы; 5) пуга, біч; 6) ежа.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | А | | |
| | Б | Д | Ё | |
| З | І | К | К | Л |
| | М | Н | П | |
| | | У | | |

### № 30.

Замест рысак дадаць патрэбныя літары, якія дадуць два вялікіх імені.

—Ы—А
—Л—Й
—У—Ь
—Л—Н
—Е—А

### № 31.

З дадзеных літар (саставіць) злажыць і напісаць па парадку ў клетках квадрату словы, якія азначаюць: 1) птушка; 2) адпачынак; 3) горны пасёлак; 4) ведзьма; 5) усходы; 6) адзеньне, убраньне; 7) назва літары; 8) дакумант.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| А | А | А | А | Б |
| Г | Г | Ж | К | Л |
| Н | Н | О | О | Р |
| Р | С | Т | У | У |
| У | Ч | Ы | Ь | Ю |

Калі словы падобраны правільна, то літары дзіаганальных і сярэдніх шэрагаў (просты і касы крыжыкі) дадуць прозьвішчы 4-х беларускіх поэтаў.

## Разьвязаньне задач зьмешчаных у № 7.

**№ 23**—Малады Араты.

**№ 24**—Купала. Гусьлі. Прачытаць можна словы: Ганак, сурдут, слуп, зьвязак, Лукулл, іржа.

**№ 25**—

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Д | Р | А | Б | А |
| Р | Э | Б | У | С |
| А | Б | О | Р | А |
| Б | У | Р | А | К |
| А | С | А | К | А |

**№ 26**—Маркс. Ленін.

**№ 27**—

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | К | | В | | А | |
| В | І | Ц | Е | Б | С | К |
| | Т | | Л | | К | |
| М | А | Г | І | Л | Е | Ў |
| | Й | | Ж | | Т | |

**Разьвязалі:** Я. Копцік—№ 23; Я. Казлоўскі—№№ 23, 24, 26; В. Казлоўскі—№№ 23, 25, 27.

**Увага!** Усім рашыўшым у гэтым нумары падрад усе задачкі, рэдакцыя вышле дармова комплект „Маладога Аратага“ з 1-га па 6-ты № уключна.

## Перапіска з нашымі супрацоўнікамі.

**Алесю Любічу**. (Стара-Барысаў). Верш „Замежным працаўніком“ слабаваты. Зьмясьціць ня можам. Пісаць не пакідай.

**М. Горану**. (в. Харавіч). Твае ўспаміны пра белапалякаў скарыстаем пры правядзеньні сьвята аслабаненьня Беларусі ў 1926 г. Тое самае гаворым і іншым таварышам.

**А. М.** (Капыль). П‘еса „На Купальле“ вельмі малая. „Малады араты“ ня раіць табе пачынаць пісаць з п‘ес. Лепш пачынай з допісаў. Частушкі „Гэй ляцелі гусі“—хоць і напісаны панароднаму, але зьмест іх такі самы, як у П. Вясковага (гл. „М. А“ № 5) таму зьмяшчаць ня цікава.

**Лідзе Трус**. (Узда). Верш „Кавалю“ слабы. „Малады араты“ чакае ад цябе допісу аб працы сярод дзяўчат вашага мястэчка.

**А. Куляка**. (с. Лазовіца). Вершы „Беларусь“ і „Дзень добры“... (да дня вызваленьня) спазьніліся.

**А. К.** Верш. „Мне сон прысьніўся“... пабудованы вельмі дрэнна. Не падыходзіць ня гледзячы на яго дадатныя бакі.

**Я. Будзька**. Верш „Вясковае“ слабы. Ня пойдзе.

Рэдактары: **А. Самахвалаў. Іл. Барашка.**

1-я дзярж. друк, Зак. № 4111—(1100). Галоўлітбел № 11868.

# Навіны навукі і тэхнікі.

## Лета і зіма на Марсе.

У час прыбліжэньня Марса да зямлі, якое адбылося ня так даўно, астраномам удалося зрабіць шэраг назіраньняў, датычных зьявішчаў жыцьця на гэтай плянэце. Раней за ўсё пацьвердзіліся заключэньні ранейшых дасьледчыкаў адносна існаваньня на Марсе цёмных ліній, сьветлых і цёмных плям.

Такім чынам, атрыманы новыя даставерныя зьвесткі аб праўдзівым існаваньні там каналаў, якія мяняюць свой выгляд у залежнасьці ад пары году.

Вельмі правільныя назіраньні былі зроблены над тым, ці ёсьць паветра на Марсе. Выявілася, што паветра ня толькі існуе на Марсе, але й займае вельмі вялікі прастор, які некаторымі вучонымі мераецца ў 100 міль глыбіні.

Але самыя каштоўныя з атрыманых вестак падаюць на долю тэмпэратуры на Марсе. Удалося даведацца, што на роўніку (экватар) Марса тэмпэратура ў сярэднім складае 7 градусаў, у мясцовасьці, дзе праменьні сонца падаюць коса—13 градусаў, на канцавосьсях (полюсы)—70 град. Апошні лік, між іншым, павінен быць крыху паменшан. З гэтага відаць, што хаця агулам тэмпэратура Марса значна халадней клімату зямлі, але, тым ня менш расьліны на ім могуць існаваць, чым тлумачацца відзімыя зьмены цёмных плям плянэты. Шэраг вопытаў даказаў, што наўдачу гэта расьліннасьць зялёнага колеру. Аднак аж да гэтага часу не ўдалося ўведаць, ці ёсьць на Марсе тлен (кіслярод).

У сучасны момант некалькі вучоных знашлі мэтоды дасьледваньня гэтага пытаньня, і можна спадзявацца, што ў бліжэйшы час будзе дакладна вядома ці маецца на Марсе тлен, ці не. Калі адказ будзе зацьвярджальны, то гэта будзе новым тлумачэньнем у карысьць існаваньня там расьліннасьці.

## Уся ўлада ў руках жанчын.

У глыбіні Цібету (Азія) вучонымі выкрыта племя, у якім уся ўлада знаходзіцца ў руках жанчын. Кожная жанчына мае 3-5 мужыкоў, якія выконваюць усе гаспадарчыя і хатнія работы. Правадыр племені—таксама жанчына.

## Лячэньне трахомы радыем.

Амэрыканскі профэсар Віліе зрабіў каля 3.000 вопытаў над лячэньнем воч, якія хварэюць трахомаю, радыем. Сьвежая трахома, асабліва зярністая, вылечвалася пасьля 3-4 сэансаў. Устарэлая трахома—у працягу 8-10 сэансаў.

Вопыты проф. Віліе ў сучасны момант правяраюцца ў Маскве і Ленінградзе.

## Радыё-часы.

У Нью-Іёрку на ўсіх гарадзкіх часох пастаўлены радыёпрыёмнікі, пры дапамозе якіх стрэлка перасоўваецца на правільнае месца. Апрача таго, усе часы маюць узмацніцелі, дзякуючы якім звон чуваць на прасторы больш вярсты.

## Дасягненьні савецкай тэхнікі.

Яшчэ ня так даўно нафтавыя пажары рабілі промыслам назьлічоныя страты і разрухі. У сучасны момант Бакінскія промыслы Азнафты мігам зьнішчаюць нафтавыя пажары.

Быў праероблен вопыт тушэньня пажару сярод промыслаў і шэрагу будынін.

У адну з ям было наліта да 400 пудоў нафты, а наверх налілі бэнзіну і ўсё гэта падпалілі. Праз некалькі сэкунд быў сапраўдны малюнак нафтавага пажару: вогненыя клубкі полымя шугалі ў паветры, густы чорны дым хмарамі лажыўся над промысламі і засьцілаў праменьні сонца... Пачуліся трывожныя гудкі. Хутка зьявіліся пажарныя дружыны і па сыгналу начальніка пажарнай каманды былі раскінуты пажарныя рукавы. З вялікаю сілай вырвалася жоўтая пена з пажарных плянг, ахапіла ўсю масу полымя і дыму, і мігам усё загасла. Праз 5-10 сэкунд ня было нават і сьледу, ані полымя, ні дыму. Толькі нядаўна прымяняемы спосаб па барацьбе з нафтавымі пажарамі дае нам бачыць дзеяньні вялікай вартасьці. На аўтомобілі маюцца 2 бочкі. У аднэй з іх трымаецца рашчына сернакіслага гліназёму, а ў другой—звычайная сода з парашком лакрыцы. Два рукавы злучаюцца ў адзін, дзе і адбываецца хэмічная рэакцыя рашчын, у выніку чаго робіцца пена. Гэтая рашчына, у час выкідваньня на нафту, якая гарыць, утварае масу вуглякіслаты. Апошняя мігам зьнішчае нафтавы пажар.

## ЗЬМЕСТ.

**Да расстрэлу тав. Ботвіна**—*адозва Выканаўчага Комітэту Комуністычнага Інтэрнацыяналу Моладзі;* **Міжнародны Юнацкі рух і заданьні комсамольца**—*Іл. Барашка;* **Два**—*верш У. Кавалёва;* **У купальскі дзень**—*абразок з комсамольскага жыцьця Зьм. Паваротнага;* **Я успомніў сягодня дзяцінства**—*верш С. Шушкевіча;* **Беларусі**—*верш Алеся Звонака;* **Ой, вы кудры...**—*верш А. Якімовіча;* **У хвалях жыцьця**—*апавяданьне М. Нікановіча;* **Да зьезду КСМ Заходняй Беларусі**—*артыкул А. Сянкевіча;* **Л. К. С. М. Б. С. С. Р.**—*прывітаньне II-га зьезду КСМ Заходняй Беларусі;* **Як мы жывём і працуем**—*ліст з Заходняй Беларусі падпольніка;* **Недахопы працы на мушку**—*старонка допісаў і малюнкаў;* **Нэп у вёсцы** - *гутарка першая;* **Журавель**—*піонэрская песьня;* **За год**—*допіс М.;* **Займаемся спортам**—*допіс Я. Ш.;* **І старыя комсамоляцца**—*допіс селькора Жлобіча;* **Васька батрак**—*допіс вясковага комсамольца З. Жораўскага;* **Выцягваем вёску з цемры**—*допіс Зэшкі;* **Гутаркі агронома**—*Ул. Даведчыка;* **Жыцьцё і праца маладых гарбароў**—*Як. Садоўскага;* **З жыцьця чырвонай Бальтыцкай Флёты**—*ліст чырвонага марака Б. Нік.;* **Хведзька комсамолец**—*п'еса ў 3-х дзеях з жыцьця Заходняе Беларусі А. Дабравольскага;* **Як правясьці МЮД**—*артыкул Д. Ратнэра;* **Што чытаць пра МЮД**—*водзывы на кніжкі;* **Адгадай**—*задачкі дзядзькі Міхалкі;* **Перапіска з нашымі супрацоўнікамі; Навіны навукі і тэхнікі; Зьмест.**